БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 20 (13552)

11— 17 мая 1992 года

Цана 3 рублі.

У нумары:



# АПОШНІ ЗВАНОК



Калі мы вучымся ў школе, толькі і молімся: хутчэй бы выйсці з гэтых сцен, зрабіць крок у вялікі свет, у вольнае жыццё, у матэрыяльную незалежнасць. Мільёны людзей гэты крок зрабілі — год таму, дзесяць, стагоддзе... Цяперашнія школьнікі не вераць — але іх бацькі, бацькі іх бацькоў нястомна сцвярджаюць: “Школьныя гады — лепшыя гады нашага жыцця”.

Бесклапотнасць? І гэта ёсць. Думаць пра заўтрашні дзень, пра тое, чым пракарміць сям'ю? Пакуль што не трэба. Тыя, каму зараз шаснаццаць, відаць, скажуць: “О, нам бы вашыя праблемы!”. Так, у іх ёсць свае праблемы, на іх погляд, не менш, а нават больш значныя, чым нашы. Праблема кахання — першага, а можа ўжо і другога... Праблема — як бы прыгажэй апрануцца, дзе знайсці грошай на цыгарэты... Перад школьнікамі пакуль што не часта паўстае пытанне — дзе б гэта заўтра паснедаць. І дзякуй Богу... Сёлетнія выпускнікі — гэта тыя, чыё свядомае жыццё пачалося тады, калі ўжо не праслаўлялі правадыроў, калі свабода слова дасягнула апагея... Гэта пакаленне запаветнае. Яно не спужалася — само каго заўгодна напужае. Але гэта пакаленне не барацьбітоў. Не варта гаварыць аб усіх, але з-за адсутнасці ідэалагічных ворагаў, яны ўсю сваю энергію будуць выплёскваць у эканоміку. Вось толькі каб крылы ім не пасекклі...

Паводле вызначэння ветэранаў, у жыццё ўступае пакаленне без каштоўнасцяў. Дазвольце не згадзіцца. Гэта якраз пакаленне каштоўнасцяў, і людзі гэтага пакалення зробяць усё, каб гэтыя каштоўнасці ім належалі.

...Пакаленне народавольцаў. Пакаленне рэвалюцыянераў. Пакаленне будаўнікоў. Пакаленне вязняў. Пакаленне салдат. І зноў — пакаленне будаўнікоў. Потым пакаленне алкаголікаў, пакаленне раўнадушных... Як жа праз дзесяцігоддзі назавуць гэтае пакаленне, пакаленне 1992 года?

Алесь Палынскі.

# ТАКСІСТЫ "ПРЫПЛЫЛІ"

У нядзелю, 10 мая, у Мінску праходзіла папераджальная забастоўка работнікаў легкавых таксаматораў. Каля 150 машын спыніліся на плошчы Незалежнасці перад Домам урада. Вадзіцелі вырашылі правесці кароткатэрміновую забастоўку, каб прыцягнуць увагу ўрада і грамадства да сваіх праблем. Асноўныя патрабаванні бастуючых: устанавіць аплату працы ў размеры 30 працэнтаў ад здадзенага рубля, забяспечыць вадзіцеляў бясплатным праездам у гарадскім транспарце (для параўнання, вадзіцелі аўтобусаў, тралейбусаў і трамваяў ім забяспечаныя). Таксама патрабавалася ўстанавіць адпачынак у размеры не менш як дваццаць чатыры дні, а пенсіённы ўзрост — 55 год. Шмат якія патрабаванні датычылі ўмоў працы, напрыклад, час, праведзены ў рамонтнай зоне, поўнасцю спісваць з баланса, страхаваць таксістаў за кошт прадпрыемства, рэгулярна вывешваць спіс заработнай платы ўсіх рабочых, служачых і ІТР таксапаркаў, а таксама пры рамонце аўтамабіля пры аварыі па віне вадзіцеля вылічваць з яго толькі 30 працэнтаў кошту. Гучала нямала нараканняў у адрас так званай жлобінскай сістэмы аплаты працы і штрафаў, якая прадугледжвае накладанне штрафу ў 50 рублёў за такія ўчынкі, як курэнне ў машыне альбо выезд на працу без формы і г.д. Яе патрабавалі поўнасцю адмяніць. Шмат прапаноў датычыла і сістэмы аплаты праезду ў таксоўцы: шафёры хацелі б бачыць яе дыферэнцыраванай, залежачай ад часу, мясцовасці і г.д.

Можна так ці інакш ставіцца да патрабаванняў бастуючых, але нельга адмаўляць таго, што праблема ёсць і яе трэба вырашаць.

У выпадку, калі згода не будзе дасягнута, мяркуецца правесці больш маштабную забастоўку 14 мая. Удзельнікі неаднаразова адзначалі, што іх асноўная мэта — не столькі паляпшэнне ўласнага дабрабыту, колькі змена да лепшага існуючага становішча. Бо вядома, што зараз горад Мінск недастаткова забяспечаны таксоўкамі, і ў той жа час пасажыры ўсё менш ахвотна карыстаюцца паслугамі таксістаў. Гэта можа адзначыць кожны, узгадаўшы хаця б той факт, што калі раней на прыпынках таксі стаялі чэргі чакаючых, то зараз — часцей чэргі машын. Як сказаў мне адзін з удзельнікаў забастоўкі, вадзіцелі вымушаныя зараз ісці на падман, на несумленнасць. Іх падштурхоўвае да гэтага існуючая сітуацыя.

Адказны дзяжурны аб'яднання Гаўрош М.А., які прысутнічаў пры забастоўцы, паведаміў, што такая падзея не з'явілася нечаканай. Сама за сябе гаворыць лічба — 7 мільёнаў — такія страты нясе зараз аб'яднанне, і гэта пры тым, што раней перавозка пасажыраў легкавымі таксаматорамі была справай выключна рэнтабельнай. Дае аб сабе знаць і адметная зношанасць машын, недахоп запчастак. Да таго ж і зарплата вадзіцеляў параўнальна невысокая — ад 1500 да 2500 рублёў. Ды і пагроза скарачэння становіцца ўсё больш рэальнай.

Варта зазначыць і той факт, што прысутныя вадзіцелі выказваюць недавер прафкому. Паводле іх слоў, прафсаюз аб'яднання больш заклапочаны падзелам рэчаў і сродкаў, чым праблемамі таксістаў.

Канешне, таксі — не прадмет першай неабходнасці. Але ўзгадаем славутую фразу Астапа Бэндара — "аўтамабіль — не раскоша, а сродак перамяшчэння". У наш жа час таксоўка зноў становіцца хутчэй раскошай. Прымушае задумацца і хуткае ўвядзенне свабодных цэн на энерганосьбіты. Здаецца мне, калі праблемы таксістаў не будуць вырашаны цяпер, то ўжо праз хуткі час вырашыць іх будзе значна цяжэй.

Гэта забастоўка — толькі першая ластаўка таго, што нам можа пагражаць. Нявырашаныя праблемы маюць асаблівасць разрастацца і пераходзіць у новую якасць. Будзем спадзявацца, што ў дадзеным выпадку нам не прыйдзецца з гэтым сутыкнуцца.

Лірычнае адступленне. Па дарозе назад я спыніла таксі і запытала вадзіцеля, ці ведае ён пра забастоўку, што нядаўна прайшла. Ён адказаў "не".

**В.Акуліч.**

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*

## "Падзяліся ўсмешкаю сваёю..."

У зале — мітусня й гамонка. За сталамі з гарбатаю, печывам і слодычу — дзеткі. Яны інваліды. Але на нейкія дзве гадзіны нехта забыўся, пэўна, на сваю бяду. Комплекс пазашкольнае працы "Золак" сумесна з грамадскімі арганізацыямі горада правёў для інвалідаў Заводскага раёна свята. Да дзяцей у госці прыйшлі мастацкія калектывы "Золака" і Мінска, а таксама прадстаўнікі грамадскасці й праваслаўнае царквы.

Своеасаблівым вядучым матывам свята-сустрэчы былі словы Пэпі, сказаныя ёю ў пачатку: "Першае, што я навучылася маляваць, была хата. Сёння мы сабраліся, як вялікая сям'я ў сваёй хаце. І няхай тут будзе цёпла і ўтульна. Яшчэ — трэба ўсміхацца ў гэтым складаным часе. Усміхніцеся свету і свет усміхнецца вам!". Арганізатары і выступоўцы імкнуліся зрабіць усё, каб дзеці, сабраўшыся пад адным дахам, усміхаліся, радаваліся, забыўшыся на нястачы і беды, якіх так багата ў іх саміх і ў бацькоў. І малыя, кіруемыя плынню весялосці, выходзілі з-за сталоў і, хто як мог, прытупвалі, прытанцоўвалі, пляскалі ў далонькі. За што мелі падзяку ад двух клоунаў, атрымалі падарункі.

Але, разам з весялосцю, адчувалася нейкая трывога. Пэўна, з-за вялікае канцэнтрацыі дзіцячае бяды... У зале сабралася каля паўсотні дзетак і іх бацькоў. У галаве ж стаяла адно пытанне: "Ці зможа краіна дзейсна дапамагчы сваім хворым грамадзянам?".

Толькі найбольшым дэфіцытам для нас ёсць недахоп дабрыні, духоўнасці, прыязнасці. Менавіта пра гэта казалі прадстаўнік Беларускага дзіцячага фонду Лідзія Мікалаеўна Ліцьвіновіч і інспектар па ахове дзяцінства Заводскага РАНА Вольга Фёдараўна Балуціна. Узнікала пытанне: дзе ж выйсце? Атрымалася, што адказаў айцец Аляксандр (Рудчанка), настаяцель храма Святога Георгія: "Трэба верыць у Хрыста як збавіцеля. Імкнуцца рабіць дабро, прабачаць чужыя грахі й крыўды". Падумалася: так проста. Пра гэтае ведаем даўно, але ці робім?

...Напрыканцы ж, калі ўсе разыходзіліся, гучала: "Поделись улыбкою своей, и она к тебе не раз еще вернется...".

**Уладзімір Пучынскі.**

*Фестывалі*

## "Вясенні зоркаплюй"

1-3 мая непадалёк ад в.Анусіна пад Мінскам праходзіў фестываль аўтарскай песні "Вясенні зоркаплюй" ("Свята палёту"), які арганізатары спачатку думалі прымеркаваць да Дня касманаўтыкі, але з-за надвор'я мусілі перанесці. Удзельнічалі аўтары і выканаўцы з Мінска (у тым ліку КСП "Пегасік", што збіраецца ў ДК "Юнацтва"), Гародні, іншых гарадоў Беларусі, а таксама бард з Санкт-Пецярбурга Толік Кай, які з'явіўся сапраўднай зоркай фестывалю.

Вядома, сусветназначнай падзеяй фестываль не стаў, але радуе тое, што бардаўская традыцыя працягваецца.

**А.Воліч.**




СУБОТА. ДЗЕВЯТАЕ МАЯ. Надвор'е на свята Перамогі выдалася пахмурнае і нечым нагадвала наша жыццё з мімалётнымі светлымі днямі.

Пасля дзесяці гадзін на Плошчу Перамогі пачалі сыходзіцца людзі, якія сорак сем гадоў назад у такі ж дзень упершыню адзначылі гэта свята. І, як у песні, на вачах многіх ветэранаў былі слёзы. У кагосьці гэта былі слёзы радасці, а ў кагосьці — гора і крыўды. За тое, што не ўсе баявыя сябры сабраліся сёння тут (а многія ўжо ўвогуле ніколі не адзначаць гэты дзень), за тое, што час няўмольна забірае ў іх гады, пакідаючы толькі памяць, за тое, што надышоў такі вар'яцкі час, калі ў людзей не засталося нічога святога...

Не хачу сказаць, што для іх не было прыгатавана ніякіх мерапрыемстваў. Напрыклад, у парку імя М.Горкага праводзіўся канцэрт. Але ветэранаў на ім былі адзінкі. Намнога часцей вока затрымлівалася на хмяльных тварах юнакоў, падагрэтых некалькімі бутэлькамі піва (недахопу ў якім, дарэчы, не адчувалася). А некалькі "квадратных" хлопцаў прапаноўвалі ветэранам купіць у апошніх іх узнагароды.

**Франц Лявіцкі.**

*РЭПЛІКА*

## Салют... з валідолам

У той час, як у вячэрнім небе над сталіцаю Беларусі дагараў салют у гонар 47-й гадавіны Вялікай Перамогі і тых, хто за яе змагаўся, самі героі, магчыма, паміралі. Прычына элементарная: нястача лекаў. Як вядома, у студзені цэны на лекі на тэрыторыі Расіі і іншых нашых партнёраў па СНД падскочылі прыкладна ў 4 разы. На працягу больш як трох месяцаў танныя лекі з Беларусі "сплывалі" туды. І вось з 15 красавіка работнікі нашых аптэк закрэслілі на этыкетках старыя цэны і напісалі новыя, памножаныя на 4:

анальгін – 1 руб. 24 кап.,
ношпа – 4 руб. 88 кап.,
ампіцылін № 20 – 12 руб. 68 кап,..

І хоць ветэраны цяпер, дзякуй Богу, атрымліваюць лекі бясплатна, гэта не вырашыла праблему, бо неабходных прэпаратаў часта няма і па новай цане. Паводле сведчанняў працаўнікоў аптэчных прылаўкаў, за апошнія гады з асартыменту бясследна знікла ад 30 да 40 працэнтаў лекаў. А як жа быць тым, хто не можа абысціся без іх?

**Рыгор Валненка.**

## У падарунак — "Дзікая архідэя"?

У Дзень Перамогі Мінскі гарвыканкам вырашыў зрабіць для ветэранаў яшчэ і свята кіно: ва ўсіх кінатэатрах горада быў свабодны ўваход для ўдзельнікаў вайны. Такая ўвага з боку ўлад, канешне, прыемная, але чамусьці забыліся паклапаціцца пра рэкламу, таму многія з ветэранаў пра гэта нават і не чулі. А хто і чуў, той не надта паспяшаўся ў кіно, асабліва, калі зазірнуў у рэпертуар кінатэатраў на 9 мая. Згадзіцеся, далёка не кожны ветэран пойдзе на тую ж "Дзікую архідэю" або на "Фантамаса". Тым больш у Дзень Перамогі, калі хочацца ўзгадаць баявых сяброў ці клапатлівую медсястру з палявога шпіталя. Таму нядзіўна, што нават у "Кастрычніку" — адным з лепшых кінатэатраў сталіцы — сеансы наведала ўсяго... чатыры—шэсць ветэранаў. А што думаюць аб мэтазгоднасці праведзенай акцыі ў Мінгарвыканкаме? Выконваючы абавязкі начальніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама А.Я. Пятровіч зазначыў, што прапанова аб правядзенні гэтай акцыі ўзнікла ў час планёркі, а што датычыць рэпертуару, то гэта кампетэнтнасць выключна ВА "Кінавідэапракат" і саміх кінатэатраў.

Узнікае заканамернае пытанне: навошта было праводзіць гэтую акцыю, калі загадзя было вядома, што яна не будзе мець поспеху? Ці не лепш было б арганізаваць бясплатнае харчаванне ветэранаў у сталоўках або, скажам, праезд на таксі па пасведчанню ўдзельніка вайны? Ды ці мала што яшчэ можна было б прыдумаць, каб ветэраны адчулі, што пра іх сапраўды клапоцяцца?

**Сяргей Вішнеўскі.**

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Сяргей ВАЗНЯК,*
*першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі:*

– 18–19 красавіка ля горада Зеленаграда, што ў Маскоўскай вобласці, адбыўся аднаўленчы з'езд ВЛКСМ.

Самае цікавае, што з'езд у намечаны тэрмін так і не ўдалося завяршыць. Прычына – усялякія перашкоды з боку маскоўскіх улад і зеленаградскай прэфектуры, якія забаранілі праводзіць з'езд у Палацы культуры г. Зеленаграда, дзе мы збіраліся працаваць. Прыйшлося пераязджаць з месца на месца, хаваючыся ад улад. Працавалі ж у пасёлках Мендзялеева і Лыткіна.

Нават загадчык сталовай, з якім у нас была папярэдняя дамоўленасць, адмовіўся дапамагчы з харчаваннем. За два дні харчаваліся арганізавана толькі адзін раз (у адной з вайсковых часцей).

За гэтыя два дні мы прынялі Дэкларацыю аб аднаўленні ВЛКСМ. Праграмную заяву камсамола, а таксама Статут арганізацыі. Кіруючыя ж органы выбраць не паспелі. Прысутнічалі на з'ездзе 102 дэлегаты, якія прыехалі з розных куткоў былога Саюза.

Трэці дзень з'езда вырашана было правесці 10 мая, але ў мэтах канспірацыі месца збору назваць не магу (інтэрв'ю з С.У.Вазняком адбылося 7 мая.– Ад аўт.).

Што датычыць рэгістрацыі ЛКСМ Беларусі, то вырашэнне гэтага пытання часова было адкладзена. 24 красавіка прыйшоў адказ з Міністэрства юстыцыі рэспублікі, дзе адзначалася, што тэкст Статута ЛКСМБ не адпавядае існуючаму заканадаўству. Намі былі ўнесены 23 папраўкі рэдакцыйнага характару. Так што спадзяёмся, што хутка ЛКСМ Беларусі будзе зарэгістраваны, як гэта і павінна быць у нармальным цывілізаваным дэмакратычным грамадстве, дзе заўсёды ёсць месца розным палітычным партыям і плыням.

*Іван Сцяпанавіч МІРАНКОЎ,*
*Герой Савецкага Саюза,*
*гвардыі палкоўнік,*
*ветэран Вялікай Айчыннай вайны:*

– Што я магу сказаць пра сёлетняе свята Перамогі? Мы, ветэраны, хацелі арганізаваць шэсце ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі. Але ўлады горада не дазволілі, сказаўшы, што падобныя шэсці арганізуюцца толькі пры юбілейных датах.

Але ў астатнім усё добра атрымалася. Што ж тычыцца сучасных падзей,– скажу адно: трэба спадзявацца на паляпшэнне. У гады вайны таксама было нялёгка, але мы змагаліся і перамаглі.

Сёння некаторыя палітыкі спрабуюць даказаць, што наш народ не перамог у мінулай вайне, а, наадварот, пацярпеў паражэнне. Я зусім не згодны з гэтым. Такое можа сцвярджаць толькі той, хто ў глыбіні душы з'яўляецца рабом, хто хоча, каб з нас зрабілі калонію, каб усе мы сталі рабамі.

Я атрымаў зорку Героя за тое, што з двума танкамі прыняў бой супраць дзевяці нямецкіх "тыграў", за семнаццаць раненняў і за тое, што застаўся жыць.

*Зінаіда Андрэеўна ПАЎЛОВІЧ,*
*намеснік старшыні таварыства*
*Чырвонага Крыжа РБ:*

– Што ў цяперашні час хвалюе наша таварыства? Ды, напэўна, тое ж, што і кожнага чалавека: недахоп грошай. Не хачу сказаць, што нам амаль ніхто не дапамагае, але тых грошай, якія паступаюць нам ад розных прадпрыемстваў, арганізацый і грамадзян, не можа хапіць, каб поўнасцю задаволіць нашы патрэбы.

Сёння Чырвоны Крыж абслугоўвае больш чым 15 тысяч састарэлых. Іх трэба даглядаць і ім трэба аказваць медыцынскую дапамогу, уладкоўваць у дамы для інвалідаў... Нярэдка даводзіцца нават займацца пахаваннем гэтых людзей, таму што ў многіх з іх няма родных.

Наша таварыства супрацоўнічае з Асацыяцыяй воінаў-інтэрнацыяналістаў, з фондам "Інваліды Чарнобыля", з Асацыяцыяй бацькоў дзяцей-інвалідаў і г.д.

Сродкаў катастрафічна не хапае. У сувязі з шалёнымі цэнамі паявілічана і матэрыяльная дапамога людзям, якія звярнуліся да нас. Стабільных крыніц даходаў у нас няма. Уся надзея толькі на дабрачыннасць грамадзян.

Хачу яшчэ дадаць, што зараз падрыхтавана праграма "Чырвоны Крыж" – дзецям-інвалідам", асноўным звяном якой з'яўляецца закупка дзіцячых інвалідных хадзілак. Гэта з'явіцца хоць невялікай, але дапамогай для маленькіх дзяцей.

# БУДЗЕМ БРАЦЬ БАНК. СУСВЕТНЫ.

Міжнародны валютны фонд – адзін з апошніх паратункаў для дзяржаў, хворых на эканамічны крызіс. МВФ – вядомая міжнародная арганізацыя, якая пазычыць грошы тады, калі аніводны камерцыйны банк іх не дасць. Гэта значыць, нават пры неплацежаздольнасці кліента. Канешне, тэарэтычна, вы можаце атрымаць пазыку і ў іншых банках, але гадавыя працэнты, якія змушаны будзеце дадаваць да пазычанай сумы, урэшце пакінуць вас яшчэ горай голым і босым, чымся вы былі напачатку. МВФ, заўважце, не дабрачынная супольнасць, але й не камерцыйная арганізацыя, бо трымаецца на членскіх укладках сваіх удзельнікаў. Фонд не ад шкадобы да банкрутаў выкідае ў прорвы іхніх разараных эканомік тысячы, мільёны грашовых адзінак з кішэні замежных фундатараў. Ды й марна спадзявацца, стоячы ў расхрыстанай кашулі, з працягнутай рукой, на раздарожжы сусветнай эканомікі, што там, у свеце, грошы выдаткоўваюцца без дай прычыны.

Гэта журналісты, у прыватнасці, чарговы раз адчулі на прэс-канферэнцыі 11 мая пад дахам Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Паінфармаваць прэсу пра дзейнасць і планы валютнага фонду ў Беларусі мелі на мэце ініцыятары сустрэчы – спадары Пуэнтас Эрнан, кіраўнік інфармацыйнага сектара МВФ і Сігер Мюрэй, памочнік дырэктара па аддзелу знешніх сувязей валютнага фонду. Але найгалоўнае памкненне візітоўцаў, гэта вынікала са стрыманасці іхніх адказаў адносна канкрэтовых фактаў і лічбаў,– наладзіць кантакты з журналістамі, каб падрыхтаваць "інфармацыйную глебу" для наведання Беларусі групай экспертаў валютнага фонду. Спецыялісты ж МВФ прыедуць да нас 21 мая для складання дэталёвай эканамічнай праграмы, на якую МВФ і выдаткуе крэдыты: мэнавіта тое, чаго прагне маладая незалежная дзяржава. Такім чынам, у выступах спадароў Эрнана і Мюрэя бракавала канкрэтыкі з-за нявызначанасці беларуска-"МВФаўскай" праграмы, таму госці далікатна пазбавілі нас і сябе ад неабходнасці рабіць прагнозы на будучае.

Да слова. Цывілізаванае стаўленне да інфармацыі і яе распаўсюджвання, усведамленне ролі прэсы ў эфектыўнасці захадаў МВФ прыемна ўразілі запрошаных на сустрэчу журналістаў. Не сакрэт, нам не заўсёды шчасціць адчуваць належнае стаўленне да наскай дзейнасці і нават самую "цнатлівую", бясшкодную ледзь не для кузуркі інфармацыю прыходзіцца па драбніцах выхопліваць з-пад прэса чыноўніцкай ляноты і баязлівасці.

Візіт прадстаўнікоў МВФ ахоплівае сталіцы шасці дзяржаў – рэспублік колішняга Саюза. За спінай візітоўцаў– наведванне Масквы, Кіева, наперадзе – Вільня, Талін, Рыга. Дарэчы, Летува ўжо з'яўляецца паўнамоцным удзельнікам МВФ. На пытанне, якія ж першыя ўражанні МВФ ад супрацоўніцтва з Летувіскай рэспублікай – друзачкай ад маналітнага айсберга былога Савецкага Саюза, заможныя спадары адказалі агульным:"У кожнага – свае цяжкасці". Пэўне, салідная фінансавая арганізацыя мае за правіла не спяшацца з высновамі, тым больш не цешыцца з цяжкасцей сваіх кліентаў.

МВФ створана ў 1944 годзе як водгук на ўрок, які далі сусветнай эканоміцы 30-я гады – гады застою ў міжнародным гандлі.

На сённяшні дзень МВФ аб'ядноўвае 157 дзяржаў. Акрамя 15-ці рэспублік экс-СССР, выканкам фонду ўжо атрымаў заявы ад новаўтвораных югаслаўскіх рэспублік: Славеніі, Герцагавіны, Босніі. Швейцарыя таксама збіраецца ўзяць удзел у МВФ. Раней яна трымалася ў баку ад дзейнасці апошняга. (Пэўне, такое частае параўнанне Беларусі і Швейцарыі паслужліва наводзіць на заўвагу: у чымсьці мы нават "абскакалі" свой заходнееўрапейскі ідэал). Па колькасці ўдзельнікаў, як было адзначана на прэс-канферэнцыі, МВФ набліжаецца да ААН, за выключэннем хіба што Паўночнай Карэі і Кубы. Для кожнага рэгіёна – Усходняя Еўропа, Афрыка, Лацінская Амерыка – існуюць агульныя прынцыпы ўзаемадзеяння з МВФ: адкрытасць для міжнароднага гандлю, унутраная дысцыпліна, каб ухіліць трату грошай. Унутры краіны-супрацоўніцы МВФ імкнецца зняць магутную руку дзяржавы з эканомікі, пазбавіць апошнюю жорсткага планавання, адкрыць дарогу прыватнаму прадпрымальніцтву. З кожнай краінай МВФ працуе паасобку, каб праграмы адпавядалі прыватным умовам. Вельмі важны першы этап работы. Пасля ж праца вядзецца з кожным урадам паасобку.

Сярод іншых прагучала наступнае пытанне:

– Наколькі вядома, МВФ насцярожана ставіцца да ўвядзення рэспублікамі нацыянальных валют і выступае за адзіную рублёвую прастору ў СНД. Гэта сапраўды так?

– Мы ставімся да пытання ўвядзення нацыянальных валют надзвычай сур'ёзна. Мы разумеем: мець уласную валюту тое ж самае, што мець нацыянальны сцяг ці гімн. Аднак мы раім і заклікаем пільна вывучыць сітуацыю перад увядзеннем нацыянальных валют. Грошы – нештачка большае, чымся наяўныя паперкі ў вашай кішэні. Мы разумеем, што ў будучым гэта будзе вашым натуральным памкненнем. Але... усё-ткі азначанае – ваша асабістая справа: захочаце вы зрабіць моцную рублёвую зону ці вырашыце ўвесці новую валюту.

Беларусь ужо задаволіла асноўныя запатрабаванні МВФ, засталіся дэталі. У самы апошні момант дэлегацыя Беларусі прыедзе ў Вашынгтон для падпісання канчатковых папер. Адначасна ў фае будынка МВФ будзе ўстаноўлены нацыянальны сцяг Беларусі. Да таго ж наша рэспубліка займее свайго прадстаўніка ў выканкаме Савета МВФ.

МВФ не хавае свайго меркавання: важна, каб традыцыйныя эканамічныя сувязі экс-СССР працягваліся, каб дзяржавы СНД гандлявалі паміж сабой, а не ствaралі бар'еры для ўзаемавыгадных зносін.

Як вы ўжо зразумелі, пэўне, валютны фонд працуе накшталт каапeратыва. Беларусь атрымала квоту ў фондзе 187 мільёнаў СПЗ – спецыяльных правоў запазычання (прыватная для МВФ адзінка разлікаў, якая пераводзіцца ў розныя валюты ) – 0,2 працэнта ад агульнага аб'ёму фонду. Варта заўважыць, што самая высокая фундатарская доля належыць ЗША. Яна складае каля 20 працэнтаў. Усе ж астатнія дзяржавы маюць меншую квоту.

Узровень квоты вызначае права голасу дзяржавы – удзельніцы МВФ і суму грошай, якія яна зможа пазычыць.

Асноўны клопат Міжнароднага валютнага фонду – дзейнасць Нацыянальнага банка, грашовае функцыяніраванне эканомікі. Эксперты МВФ рэкамендуюць і дапамагаюць скласці сістэму падаткаабкладання. Нарэшце, яны дапамагаюць у сферы дзейнасці, якая большасці з нас падаецца сумнай – маецца на ўвазе статыстыка. Гэткая дапамога паскорыць выхад Беларусі ў міжнародную эканоміку, дзе існуе свая сістэма справаздачнасці.

Але ў МВФ няма вопыту супрацоўніцтва з каманднa-адміністрацыйнай эканомікай. Непрадказальная адна шостая частка сушы, якая сваю ўнутраную палітыку ператварыла ў геапалітыку, уласнай эканомікай... здольная нарабіць клопатаў усяму свету.

**Алена Агібалава.**
**Фота С. Брушко.**




*Партыі, рухі. Бег навыперадкі*

# Інтэрнацыянал нацыянал-дэмакратаў

10-12 мая каардынацыйны цэнтр "Дэмакратыя і незалежнасць" планаваў правесці ў гасцініцы "Юнацтва", што знаходзіцца ў маляўнічым мястэчку ля Мінскага мора, канферэнцыю. Але замест яе адбылася рабочая нарада, бо прысутнічалі дэлегацыі толькі з 4 краін — Беларусі, Украіны, Польшчы і Арменіі. Як лічыць адзін з арганізатараў сустрэчы, старшыня НДПБ Віктар Навуменка, астатнія запрошаныя дэлегацыі не прыехалі, напэўна, з-за абвастрэння ўнутрыпалітычнай сітуацыі, асабліва — у Азербайджане, Малдове...

Тым не менш, праца нарады была плённай. Як сказаў адзін з удзельнікаў Войцэх Стандо: "Усё залежыць не ад колькасці, а ад нашага духоўнага стану".

Удзельнікі сустрэчы абмяняліся інфармацыяй аб палітычнай сітуацыі ў іхніх краінах і дзейнасці сваіх арганізацый. Яны падтрымалі зварот апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі, грамадска-палітычных партый і рухаў да грамадзян Рэспублікі Беларусь, да ўсіх народаў — ахвяр камуністычнага тэрору. Атрымала падтрымку таксама ідэя блоку дэмакратычных сіл Беларусі аб правядзенні рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і датэрміновых выбарах на шматпартыйнай аснове. Удзельнікі рабочай нарады згадзіліся, што вопыт падрыхтоўкі такога рэферэндуму будзе карысным для ўсіх краін, якія апынуліся ў падобнай сітуацыі.

Нарада абмеркавала праблемы і дзейнасць каардынацыйнага цэнтра "Дэмакратыя і незалежнасць", падрыхтавала рэкамендацыі для ўнясення паправак да Статута арганізацыі ў сувязі са зменамі ў грамадскім становішчы. Было прынята рашэнне аб ажыццяўленні праекта "Дэмакратычны нагляд (маніторынг)", які быў прапанаваны амерыканскім экспертам і адначасова паўнамоцнай прадстаўніцай "Руху" сп.Пэйшэнс Хантвурк. Гэты праект павінен забяспечыць рост дэмакратычных інстытутаў у рэспубліках былога СССР. Сп.Хантвурк падзялілася сваімі ўражаннямі:

— Я думаю, сустрэча была паспяховай. Актуальнасць гэтай працы можна падкрэсліць і падзеямі, якія звязаны з ЦВК Рэспублікі Беларусь. Я была запрошана ў Цэнтральную выбарчую камісію на канферэнцыю прадстаўнікамі апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. Члены ЦВК выслухалі мае пытанні і прапановы, былі вельмі ўважлівыя да мяне, бо я з'яўляюся замежным (!) экспертам... Галоснасць у такіх справах надзвычай карысная.

І яшчэ. Калі людзі розных нацый збіраюцца разам, каб абмеркаваць падзеі, вынікі заўсёды з'яўляюцца вельмі эфектыўнымі, бо думкі дыферэнцыраваны і ў спрэчцы нараджаецца ісціна.

Нарада вырашыла арганізацыйныя пытанні, стварыла грунт для выбараў Прэзідэнта і каардынацыйнай Рады "Дэмакратыі і незалежнасці", а правядзенне наступнай сустрэчы прадстаўнікоў "ДН" было прызначана на 19 жніўня 1992 года ў Маскве. Але, як заўважылі прысутныя, тут не самае галоўнае тэрміны і вынікі, галоўнае — справа, якая ўсіх аб'ядноўвае: барацьба за дэмакратыю і незалежнасць нашых краін.

Са свайго ж боку я хацеў бы дадаць адну думку, якая мне падалася надзвычай цікавай. У размове з членам Правода (вышэйшага кіраўніцтва) Украінскай рэспубліканскай партыі сп.Іванам Дэменюком я даведаўся, што пачынаецца супрацоўніцтва ўкраінскіх нацыянал-дэмакратаў з нацыянал-камуністамі! І гэта гаворыць прадстаўнік адной з самых антыкамуністычных раней партый. Ейны касцяк складаюць людзі, што шмат гадоў змагаліся за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны і мелі ад таталітарнага імперскага рэжыму адпаведную "падзяку". Лідэр УРП сп.Ляўко Лук'яненка сядзеў 27 гадоў, сп.Міхаіл Горынь — 12 гадоў, сп.Ляўко Гарохіўскі — 9... Нават гэтая партыя пайшла на кампраміс і першай зрабіла крок насустрач камуністам. Яны падтрымліваюць сп.Краўчука ў знешняй палітыцы, але ва ўнутранай — вядуць звычайную парламенцкую барацьбу.

А што тычыцца "ДН", то яна павінна працягваць сваю дзейнасць і надалей, як каардынацыйна-інфармацыйны цэнтр усіх нацыянальна-дэмакратычных партый і арганізацый былой імперыі СССР і Усходняй Еўропы. Гэта афіцыйны пункт гледжання УРП, але, як сцвярджае сп.Дэмянюк, яна супадае з яго асабістымі думкамі.

Усе прысутныя на нарадзе былі перакананы, што ва ўмовах посттаталітарнага грамадства і небяспекі падмену дэмакратыі новымі аўтарытарнымі рэжымамі задачы арганізацыі "Дэмакратыя і незалежнасць" захоўваюць актуальнасць. Такія сустрэчы не толькі інфармуюць прадстаўнікоў дэмакратычных партый аб палітычным клімаце ў суседзяў, але й спрыяюць развіццю салідарнасці паміж нацыямі. А гэта сапраўды каштоўна, асабліва для краін, што выходзяць з палону таталітарызму.

**Паўлюк Быкоўскі,**
**Выбранецкая інфармацыйная служба.**



# ЯК ЗНАЙСЦІ АГУЛЬНУЮ МОВУ?

*"Кропельніца для паміраючай эканомікі" — ліст з такой назвай быў змешчаны ў адным з апошніх выпускаў Вашай газеты. І, зразумела, не застаўся без увагі тых чытачоў, якія не толькі цікавяцца эканомікай, але і шукаюць рэальныя шляхі выйсця з эканамічнага крызісу.*

Дык вось, праўду кажучы, я рэальных шляхоў выйсця рэспублікі з тупіка так і не знайшоў у разважаннях і довадах Вячаслава Ішчанкі, хоць ён у сваім лісце ўжываў даволі шмат эканамічных тэрмінаў і прыводзіў шэраг прыкладаў. Але, на жаль, нешта падобнае мы ўжо чулі ад вучоных-эканамістаў, асобных палітыкаў... А што ў выніку? Ці сталі мы жыць лепш? Як цягнуў непасільны цяжар працоўны народ з-за "памылак" зверху, так і цягне па сённяшні дзень. Няма патрэбы нанава вынаходзіць "веласіпед". Большасць сумленных людзей у душы ўжо знайшлі гэта адзіна правільнае выйсце. Кіраўнікі павінны прыслухацца да меркаванняў працоўных і рабіць менавіта так, як яны (працоўныя) таго жадаюць. А што мы бачым на самай справе? Народ у свой час прагаласаваў за адзіны Савецкі Саюз. Але хто прыслухаўся да думак мас? Гэта раз. Два: простыя людзі патрабуюць справядлівага размеркавання матэрыяльных даброт. Зноў народ не знаходзіць агульнай мовы з вярхамі: адзін заграбае (не баюся гэтага слова) у месяц 50—100 тыс. рублёў, другі — 1000—2000. А гэта ўжо як у той прыказцы:"Сыты галоднаму не сябра". Далей. Працоўныя выступаюць супраць беспрацоўя. Але не, беспрацоўе паціхеньку праціскаецца ў наша жыццё. Больш таго, працоўныя заклікаюць весці жорсткую барацьбу з дармаедствам. Зноў няма агульнай мовы з вярхамі. Працоўныя патрабуюць павялічыць барацьбу са злачыннасцю, бо ўсё больш небяспечна выходзіць на вуліцы, у грамадскія месцы. У адказ у вярхах праводзяцца дэбаты аб магчымасці адмены смяротнага пакарання, спагады злодзеям уласнай маёмасці, міласэрнасці да асобных катэгорый забойцаў. Заплюшчваюцца вочы на квітнеючую прастытуцыю, на маральны распад моладзі ў відэасалонах. І г.д. Што, у гэтых пытаннях неабходна асаблівая геніяльнасць, каб прывесці ўсё ў парадак? Ды пастаўце на кіруючыя пасады некалькі дзесяткаў сумленных, справядлівых, простых (хай нават са школьнай адукацыяй) людзей і, я ўпэўнены на ўсе 100 працэнтаў, мы будзем жыць лепш! Самае галоўнае, каб гэтыя людзі самі паказвалі прыклад ва ўсім. Неабходна, напрыклад, правесці суботнік у горадзе. Не саромейцеся браць у рукі мятлу, граблі і іншае. Калі ж хто з тваіх намеснікаў адчувае, што ў ім цячэ іншая кроў, г.зн. вырашыў ухіліцца ад працы, усё зразумела: неабходна такога вызваліць з пасады. Аналагічна і з правядзеннем кампаніі дапамогі вёсцы, заводам, фабрыкам... Успомнім гісторыю. У.І. Ленін на суботніку нёс больш цяжкі канец бервяна. Што, для паказухі, скажаце? Ісус Хрыстос заўсёды быў у цеснай сувязі з простым працоўным народам, спазнаў на сабе ўсе яго цяжкасці, нават пайшоў на крыж дзеля выратавання людзей. Казкі? Гэтыя "казкі" стала прызнаваць нават афіцыйная навука. Г.зн. заўсёды, спакон веку, народ давяраў тым сваім героям, правадырам, якія не толькі ведалі мары і спадзяванні простага смяротнага, але і прайшлі пэўныя выпрабаванні разам з працоўным народам у сваім жыцці. І пакуль вярхі не апусцяцца ў масы, да таго часу ніякія разумныя падказкі з "глыбінь" не знойдуць сваіх увасабленняў у нашым сённяшнім непрадказальным жыцці.

А. Бранкоўскі, рабочы ВА "Гомсельмаш".

- **А ці ёсць што адказаць на гэтае Старшыні Савета Міністраў Вячаславу Кебічу?**

Фота С. Грыца.

У кожнага ёсць свае перакананні, кожны мае свае меркаванні і марыць падзяліцца імі з астатнімі людзьмі. А яшчэ лепш — пераканаць усіх астатніх і даказаць правільнасць менавіта сваіх довадаў, а не довадаў кагосьці іншага. Так было і так будзе, пакуль людзьмі не апанавала поўная апатыя да ўсяго навакольнага, да ўсяго таго, што адбываецца побач, за шклом тваёй утульнай кватэры...

Матэрыял Вячаслава Ішчанкі "Кропельніца для паміраючай эканомікі" выклікаў даволі вялікую цікавасць у чытачоў нашай газеты. Адзін з лістоў мы вырашылі надрукаваць, хоць ён падаўся і вельмі спрэчным. Але хай усе ідэалагічныя і палітычныя нюансы застаюцца на сумленні аўтара. Адно хачу яму нагадаць. Памятаеце, калісь ужо прыйшлі ў нашай шматпакутнай краіне да ўлады лідэры, што мелі за плячыма толькі школу. Тое, што з гэтага атрымалася, мы можам бачыць на ўласныя вочы. Ну, а наконт астатніх перакананняў — рабіць высновы чытачу.

Зміцер Лукашук, вядучы паласы "Эканоміка".



Лапцевая пошта

# ПРА ТОЕ, ЯК Я ВЕШЧЫ СОН СНІЎ

*Добрага вам здароўечка, даражэнькія рэдактары! Ці яшчэ не забыліся пра мяне? А я — вось ён, увесь тут, ваш актыўны чытач і пісач. Толькі ж работкі цяпер ля хаткі, хоць заваліся — вясна прыйшла. А таму даруйце, калі пісаць буду рэдка.*

*А чаго турбую? Ды справа ёсць, дужа важная. Запытацца хачу, вы часам у вешчых снах не разбіраецеся?*

Учора нараніцы дзіўны, загадкавы сон бачыў. Балесь яго ведае, ці я злоўжыў увечары смажанаю бульбаю, а ці глынуў лішнюю пляшку піва. Сплю я і бачу, нібыта мой родненькі радыёпрыёмнік, той самы маўчун, ад якога, бывала, цэлымі тыднямі слова не пачуеш: то шэпча, то курхукае, як прастуджаны, то бурчыць нешта сабе пад нос, як благі свёкар, а то заікаецца, небарака, нібы за ім зграя сабак гналася; той самы, значыцца, рэпрадуктар сусветнаму імперыялізму запрадаўся. І давай лапатаць — адкуль мова ўзялася!

Напачатку залез у тую скрынку спадар (ці таварыш, гледзячы як яму зручней) Чыкін. Аняго ж, той самы, не супраць начы будзь сказана... Залез і давай даказваць мне, што "пэкабэ" гэто совсем не "капэбэ", поскольку устав "капэбэ" совсем не похож на устав "пэкабэ". Доўга даказваў, а я, браточкі, лэп-лэп пад коўдраю — далібог, не магу ніяк спрасонку даўмецца, хто дзе ўстаў. Пакуль шукаў, дык мне Чыкін і будзе казаць:

— Ухудшение произошло не в лучшую сторону.

А я і сам ведаю, што не к Пятру, а к Змітру. Бо заходжу я, значыцца, у сталіцы ў грамадскі, прабачце... транспарт, еду (не на самай справе еду, але ў восне), раптам зірк — талончык у мяне, а на талончыку напісана: "на одну поездку... 3 р. 40 к." Еду і думаю: ці мне талончык, а ці галаву лепей у кампосцер усунуць? Тым часам у дынаміку аб'яўляюць:

— У Мінску адзінаццаць гадзін дваццаць хвілін... Осторожно, двери закрываются, следующая остановка площадь Незалежности... У эфіры праграма "Такая пазіцыя".

І тут загалдаечылі пасажыры. Адзін крычыць:

— Ганчарыкі прыходзяць і ўходзяць, а прафсаюзы...

Другі штурхае яго ў бок:

— Не думаю, што ўпадзе карона з БНФ.

Нейкі старэнькі дзядок, якому адна дарога — ці ў рай, ці ў парламент ад грамадскай арганізацыі, ухапіўся за поручні, трымаецца з апошніх сіл і раве, што ёсць моцы:

— Наша цель — обеспечить благополучие, дабрабыт!..

Добра помню, перавярнуўся я на другі бок, каб не чуць таго галасу, і апынуўся, не паверыце, мусіць, на нейкай кандытарскай фабрыцы, дзе ж яшчэ ўбачыш гэтулькі салодкага прадукту, хіба ў кааператараў. Заграбаю я, значыцца, пшыкаладкі, упісваю за абедзве шчакі і сам сабе думаю: няўжо і праўда Чыкін мне светлую будучыню пабудаваў? Раптам аднекуль трыбуна — саўгель, высокая, бліскучая. І падымаецца туды начальнік, паперку бярэ, робіць сур'ёзную міну і пачынае па алфавіту прозвішчы называць. Напужаўся я па старой памяці, думаў, некралог. Няўжо, думаю, зноў геніяльны акалеў, ды цяпер будуць паміраючыя лебедзі паўтыдня на экране таўчыся? А пра тое, дурань, забыўся зусім, што мы ўжо сем гадоў, як разбурыліся ды перасыпаемся. Хутка зусім рассыпемся. А ў горы хіба ж паміраюць? Прыглядзеўся пільней, прыслухаўся: нешта не тое — зала надта пустая. Нарэшце змікіціў: то ж у Вярхоўным Савеце з сачкунамі ваююць. Сталіна на іх нямашака, той бы дзесяткі са два саслаў на "ліквідацыю наступстваў", астатнія б, як мышы пад венікам, сядзелі... Вось і спусціўся я на грэшную зямельку. Тым часам дэпутаты прэць пачалі па Законе аб прыматызацыі жулля. Галасу — як у нашай канторы пад час палучкі. Адзін выскачыў на трыбуну, дый крычыць, як рэзаны:

— Люди быстрее разберутся, чем депутаты.

Другі галосіць, кулакамі размахвае, нібыта ячмянёк сабраўся змалаціць, вось бы яму ладны цэп у рукі, каб ухаластую не махаў:

— Это выдуманная ложь...

Тут я і прачнуўся. Таксама ўвесь сапрэўшы, як бы з дзесяток паправак да законапраекта прыняў. А сонейка высока. А работка мая ўся стаіць. А я ж не дэпутат які, з доўгага язык хлеба не зараблю. Вось табе піва — заспаў! А ў роце прытарна, быццам і праўда ў камунізме пабываў.

Што б гэта азначала? Пытаўся ў суседзяў. Камуністы кажуць, гэта як і нябожчыкі — на змену пагоды. Пшыкаладкі — тут таксама ўсё проста: чакай рэфігендума, бо калі за абедзве шчакі ўпісваеш, а ў роце прытарна, значыцца, такое салодкае жыццё неўзабаве пачнецца, што не будзеш ведаць, куды і плявацца. Тут я, даражэнькія рэдактары, мушу ў вас парады запытацца, бо чалавек я цёмны, сам ніяк не магу разабрацца ў тых тонкасцях палітыкі. Адны — за ратацыю, будуць, значыцца, ратаваць стары парламент. Добра. Другія ўхапіліся за той рэфігендум, як тапелец за саломінку. А мне на фіга, разабраўшыся, рэфігендум? Ці ён мне дапаможа соткі запахаць? Альбо і праўда пасля яго пшыкаладкі буду есці?



Ну, над талончыкам за тры сорак доўга нам гадаць не давялося. Тут наш родны Саўмін апаратыўна адгукнуўся на згадкі працоўных, як у нафтаправод глядзеў — назаўтра ж такую пастанову зафундоліў, што мы цяпер у Лепля пешадрала чэшам, як і дзяды нашы, яшчэ й босыя разуваемся, каб вобуй зберагчы.

А вось наконт дэпутатаў, даражэнькія рэдактары, выйшаў у нас плюйралізм думак. Хто кажа: прысніць дэпутатаў — дужа нядобрая прыкмета: будуць ізноў калгаснікаў абкулачваць, а цвёрдых ды непахісных беднякоў на Салаўкі высылаць. Іншыя смяюцца: навошта Салаўкі, хопіць і Хойнікаў. А ўбачыць у восне выбраннікаў народа, на іх думку, зусім не кепска, бо то — да вялікага базару, а значыць, падзешавее цыбуля. Трэція даказваюць: калі ж убачыў трыбуну — чакай многа вады, вымакне бульбачка. Адным словам, у каго што баліць...

Паслухаў я людзей, паківаў галавою, а сабе думаю: не так проста сесію сасніў — будзе вялікая свара.

Ці праўду кажу? Помніцца, даражэнькія рэдактары, вы аднаго разу соннік штампавалі. Даўно было, шукаў я шукаў тую газету ў старых падшыўках, ды так і не знайшоў. Мо б вы наштампавалі той соннік і яшчэ раз, ды з папраўкамі на вастрыню сучаснага моманту. Каб не думалі людцы, не гадалі над рознымі палітычнымі кашмарамі. Каб, прачнуўшыся, ведалі, колькі яшчэ чакаць засталося новага застою.

**З павагай Міхась ВАЛОХА**
**з-пад Лепля.**

**P.S.** *У сувязі з рэзкім падаражаннем цаны білетаў на Мінск (аж да 82 рублёў) і таму немагчымасцю прыбыць да вас натураю высылаю сваё юначае фота са шчырымі спадзяваннямі, што клуб знаёмстваў "ЧЗ" "Перапіска" не абміне ўвагаю, а належным чынам ацэніць мае высокія індывідуальныя якасці.*

*Ад сябе дадам, што жанаты не быў, шкодных напіткаў не ўжываю, асабліва па панядзелках. Люблю музыку, прыроду і "Чырвоную змену". Малады, сімпатычны, загадкавы, пачынаючы. Пачынаю з задавальненнем гатаваць яечню і дасылаць вершы ў літстаронку "Крыніцы". У дадзены момант адбываю выпрабавальны тэрмін перад залічэннем на курсы практакоў, створаныя пры Мінскім кабялёвым тэлебачанні, і рыхтуюся да здымкаў у галоўнай ролі. Жыллём і матэрыяльна забяспечаны, апрача апошняга тыдня перад палучкаю. Па характару вясёлы, прыветлівы. Хаджу на дыскатэкі.*

*Жадаю пазнаёміцца з жанчынай, якая згодна фінансаваць мае творчыя паездкі ў Мінск, дзеля стварэння сям'і. Дзе ты, мая каханая? Дзеля цікаўнасці і з месцаў пазбаўлення волі прашу не пісаць.*

**Фота А. Клешчука.**




— У вароны вынялі медаль. Шкада! — з такімі словамі звярнуўся ветурач да ўладальніка рыжага пушыстага камячка, паклаўшы на стол крывавы кавалак шкла.— Што здарылася?

— Вось гіпс разгрызла, нягодніца!— малады хлапец вінавата развёў рукамі.— Адна бяда з гэтымі зубамі. У хаце ніводнай табурэткі цэлай не засталося. Быццам шчупак — пілiць ды пілiць!

— Так-так,— П.В.Арэхаў з хітрынкай зірнуў на трохмесячнага пацыента.— Мабыць, мяса шкадуюць — і гіпс падыдзе?

...Жыхарам Цэнтральнага раёна нашага горада добра вядомы будынак на вуліцы Аршанская, 33 — станцыя па барацьбе з хваробамі жывёл. Штодзённа ў зялёны невялічкі церамочак спяшаюцца людзі.

Са шматлікіх кардонак, сумак, кашолак выглядваюць забаўныя мордачкі кошак, трусоў. Дзівоснае шчабятанне папугайчыкаў нагадвае свет далёкай таямнічай флоры і фаўны. А колькасці парод сабак пазайздросціць любая, нават самая прэстыжная выстаўка: нямецкія аўчаркі, догі, таксы, пінчэры. І ўсе цярпліва чакаюць чаргі да доктара. Так, публіка тут даволі дэмакратычная. Але для высокапрадукцыйных жывёл (кабаноў, курэй, авечак) існуючае правіла парушаецца — агляд адразу пасля прыходу.

Неяк аўтару гэтых радкоў давялося выпрабаваць усю нуднасць шматгадзіннага чакання на прыём. Добра яшчэ, што ў ветлячэбніцы па вуліцы Сямёнава, 32а хапае крэслаў!

Чацвераногія гадаванцы кусалі павадкі, злаваліся на гаспадароў, а тыя ў адказ цыкалі, грозна насупіўшы бровы. Гэта толькі ў прымаўцы: "У цеснаце, ды не ў крыўдзе". А на справе ўсё больш складана. Дарэчы, малое памяшканне — бяда ўсіх ветлячэбніц горада. Няма сродкаў на пашырэнне. Куды там! Хаця б на лекі хапала! І дзе той добры дзядзечка спонсар? Адгукніся, калі ласка!

А чарга ўсё не памяншалася. Якіх толькі парад ні пачула: што гатаваць для шчаняці, колькі разоў выгульваць. Тады ўпершыню і пазнаёмілася завочна з чараўніком па прозвішчы Арэхаў.

— Прабачце, а які ён?— звярнулася па тлумачэнні да суседкі.

— Хіба вы не ведаеце?— жанчына шчыра здзівілася.— Сапраўдны ўрач! А якая залатая душа! Добрае слова скажа і хвораму звярку і чалавеку. Пагутарыш з ім — і на сэрцы *лягчэй. Супакоіць, параіць лекі.* А жарты так і сыплюцца з вуснаў! Вось толькі яго ўладанне адсюль далёка — побач з прыпынкам Чарвякова.

...Спакойная добразычлівая атмасфера пануе ў церамку. Некалькі пакояў: прыёмная, аперацыйная, рабочы кабінет. За сталом з рэгістрацыйным журналам уваходзячых сустракае тэрапеўт Л.М.Марозава. Прыветлівы позірк, ласкавы голас. Побач, у аперыцыйнай, працуе загадчык станцыі па барацьбе з хворымі жывёламі Цэнтральнага раёна П.В.Арэхаў. Эпізатолаг (складаныя аперацыі, заразныя хваробы, абследаванне, прафілактыка) А.П.Саўчык — на першы погляд, даволі сур'ёзны. Але толькі на першы. А без фельчаркі В.В.Максіменка нагул не абысціся. Такая хуткая, рухавая.

Гаспадыня чарнявай прыгажуні дабермана-пінчэра горда расхвальвае любіміцу:

— Ведаеце, гэтую пароду дарэмна лаюць, маўляў, сабакі злыя, як ведзьмары. Зусім не. Наша, напрыклад, ціхмяная, а такая ласкавая — нібы тая кошачка!

— І што ты мне скажаш?— накіраваўся да яе Пётр Васільевіч.

— Р-р-гаў!— ад гучнага рыку вушы пазакладала. Доктар падскочыў ад нечаканасці.

— Сядзець!— прыкрыкнула ўладальніца.

— Дзякуй за каманду,— пажартаваў Арэхаў.

— Што вы, гэта я на сабаку,— жанчына зусім разгубілася.— Выбачайце, калі ласка, яна выпадкова.

Звычайная работа: і кроў, і бруд, і раздробленыя косткі. Экзотыкі мала. Ветурачы таксама людзі. Працуюць на мяжы. Зрэдку здараюцца рэзкія размовы з некаторымі грамадзянамі. Нахабнікаў хапае. Згадзіцеся, у спакойных абставінах і працуецца лягчэй.

З каробкі з-пад торта зіхацяць тры пары вачэй. Ці сабачкі, ці коцікі. Касметычная аперацыя: купіраванне хвастоў.

— Міні, максі, мідзі?

— Пудзялькі будуць сярэдняга росту.

— Па мне хаця б з авечку. Якую моду прапануем?

— А-а, разумею,— чарговы наведвальнік крыху збянтэжыўся.— Можна гэтую, як яе, мідзі.

У майго героя Пятра Васільевіча вясёлы характар. Нават і з жонкай калі пасварыцца — па словы ў кішэню не палезе. Прымаўкі, песні. Толькі не падумайце, не, гэта не чэрствасць у адносінах да пацыентаў. Хутчэй — жаданне супакоіць, зняць напружанне ў гаспадароў жывёл. І яму вераць.

У шчаняці ўсходнееўрапейскай аўчаркі ўся лапа ў крыві. Гуляла на лузе і наступіла на разбіты японскі тэлевізар. Першае знаёмства з Краінай узыходзячага сонца даволі сумнае. Вось яна, наша культура, а дакладней яе адсутнасць. Жывём па прымаўцы "Прэч з вачэй і з сэрца вон!" Так лягчэй. У хаце чысціня — і добра. А што пад балконам бруд, ад смецціправода смурод, разбітае ў скверах шкло — дык у нас, паважаных грамадзян, галава не баліць. Маўляў, няхай прыбіральшчыкі клапоцяцца — іх работа. А тут іншых спраў хапае.

Зашыць лапу можна. А ці сустракаліся вы калі-небудзь з позіркам параненай жывёлы?

Яшчэ са школы добра ведаем назву стагоддзяў: каменны, жалезны, век атама, энергетыкі. А будучыя нашчадкі пра нас з вамі, напэўна, скажуць: гэта бутэлечны век. Адно разбітае шкло вакол.

— Буду я ў чаравіках танцаваць на ўсіх балях.— Сабаку з забінтаванай лапай доктар сам вынес на руках у калідор.— Добра, што слана не прывялі!

Чорны з сярэбранымі ніткамі рызеншнаўцэр гучна заявіў пра сябе з парога.

— Цыц! Кракадзіл. Лічыш, толькі ў цябе лапа баліць? У мяне таксама локаць збіты. Аднак я не рыкаю!

З выпіскі прэйскуранта на паслугі, аказаныя ветэрынарнымі ўстановамі ўладальнікам непрадукцыйных жывёл у рублях:

— Амбулаторны першасны прыём: кошка — 3, сабака — 5, папугай, хамяк, канарэйка — 1;

— Кансультацыя з выпісваннем рэцэптаў — 3;

— Выманне іншароднага цела: з глоткі — 10, з гартані — 12;

— Касметычныя аперацыі: рэзекцыя вушных ракавін у сабак (дог, баксёр, даберман-пінчэр, рызеншнаўцэр) — 100; ампутацыя хваста — 15;

— Аперацыя на страўніку, кішэчніку — 52.

У складаных выпадках можна паклікаць спецыяліста на дом.

Усё звязана з улікам павелічэння аптовай і дагаворнай цаны на медыкаменты, біяпрэпараты, дэзсродкі.

Але гэта кропля ў моры. Сумна, што ў горадзе з палутарамільённым насельніцтвам і вялікай колькасцю жывёл для апошніх складана набыць у аптэках лекі. Шмат лякарстваў паступае да нас з-за мяжы. Але ж дзе яна, каштоўная валюта? Ды і за нашы, знаёмыя воку рублі не заўсёды купіш неабходнае. Хутчэй на рэцэпт з ветлячэбніцы пачуеш у адказ абураны голас службы аптэкарскага храма: "Нічога сабе, людзям не хапае, а яны сабаку лячыць уздумалі!" Відаць, забыліся пра Ноеў каўчэг, дзе ўсіх жывёлін было патроху. Божачка, даруй слепату, выратуй нашы душы!

— З раніцы,— працягвае размову мой субяседнік,— каб узняць настрой, пойдзеш у калідор і з ходу: "Хто на кастрацыю?" Які-небудзь мужчына абавязкова трапіць у пастку: "Я!" — і агульны рогат.

Добрых спецыялістаў рыхтуюць ветінстытуты Віцебска, Харкава, Маскоўская ветэрынарная акадэмія. У Прыбалтыцы сельгасакадэміі з ветфакультэтамі. Было б жаданне.

А на сённяшні дзень высокакваліфікаваным спецыялістам канкурэнцыю складаюць часцей інжынеры-самавучкі. Быццам грыбы пасля дождживу выраслі шматлікія кааператывы. Цудоўна, калі ў доктараў Айбалітаў ёсць адпаведны дыплом ветспецыяліста. А калі няма? Вынікі самыя сумныя. Справядлівае абурэнне Пятра Васільевіча:

— Вось вам аб'ява са слупа: "Паспяхова лячу энтэрыт, гепатыт". Выбачайце, але я за 39 гадоў працы ніколі не дам поўнай гарантыі. Здараецца, можна выратаваць жывёлу. У складаным выпадку лепш не катаваць хворага, навошта пакутлівае згасанне?

Існуючая сістэма дыягностыкі не дае магчымасці адразу выявіць хваробу. Чума, энтэрыт могуць быць вынікам звычайнага атручэння, прастуды. Здараецца; і прышчэпленая жывёла захварэла. Прычыны розныя: ранняе адыманне ад маці, пасля правакацыя харчам, прышчэпка пасля змены зубоў (даволі частая памылка сярод насельніцтва). Пры сутыкненні з вірусам — захворванне. Таму ў якасці прафілактыкі прышчэпкі неабходна пачынаць з двухмесячнага ўзросту, абмежаваць сувязі з іншымі чацвераногімі сябрамі, нельга дапускаць падбіранне з зямлі харчовых адходаў.

Цікавая дэталь: аказваецца, і для жывёлін выкарыстоўваюць уціхамірвальную кашулю, дакладней, мяшок. Пачысціць вушы ў кошкі з рамантычнай мянушкай "Сільва" можна было толькі пры дапамозе спецыяльнага "сувеніра" з грубага сукна.

...Дынастыя Арэхавых. Менавіта так можна сказаць пра сям'ю Пятра Васільевіча. Жонка — кандыдат ветэрынарных навук. Муж сястры, пляменнікі — ветурачы. Дзядзька таксама лячыў.

Да пасады загадчыка станцыі Пётр Васільевіч 18 гадоў працаваў у Мінскім навукова-даследчым інстытуце, выкладаў у Віцебскім ветінстытуце. Мае 12 надрукаваных работ. Сярод іх — "Скарыстанне хларафосу супраць крывасосных членістаногіх і падскурных аваднёў буйной рагатай жывёлы", "Сульфагідрыльныя групы ў тканках здаровых і какцыдзіёзных куранят", "Ход хваробы Ауескі ў жывёлы на фоне прамянёвага пашкоджання і фарміраванне ў іх паслявакцыйнага імунітэту".

Быў у загадчыка кот-прыгажун. Але нехта запазычыў пушысціка. "Добра,— вырашылі сябры,— будзе табе, Пятро, кацяра. Не мела баба клопату..." А малады "Агапыч" даволі хутка знайшоў агульную мову з "Фальфай" — шатландскай аўчаркай. Гэтую рыжуху некалькі гадоў назад Арэхаў выхадзіў сам. Яна была з асуджаных: перанесла чуму, зрыў нервовай сістэмы.

— Доктар, ратуйце наша кацянё,— маладая жанчына з маленнем зазірнула ў твар. Побач стаялі абодва сыны.— Учора з канапы ляснуўся і не ўстае.

— Нічога. Здараецца, і я не заўсёды падымаюся. Яшчэ на зайздрасць жаніх вырасце!

На аперацыйным стале — паўгадовы мармуравы дог. Пералом тазасцегнаванай косці. Вельмі складаная і адказная аперацыя. Дарэчы, у Беларусі яе ніхто не робіць. Прыязджаюць да эпізатолага А.П.Саўчыка з Гродна, Гомеля, Барысава. Сённяшняя — ужо сёмая за месяц.

Сцягно разразаюць, у пакалечаную костку ўводзіцца стальны пруток. Мускулы моцныя, і каб яго ўставіць, неабходны значныя намаганні. Рана загойваецца на працягу месяца. Самае цікавае тое, што для аперацыі хірург выкарыстоўваў... звычайны малаток. Што ж тут зробіш, калі медыцынскі інструмент адсутнічае.

З дазволу ўрача дакранаюся да сабакі. Праз разрэз добра намацваецца раздробленая косць.

Аляксандр Паўлавіч аперыруе 24 гады. Здараецца, атрымлівае ўкусы ад "удзячных" пацыентаў. Застаецца і пасля работы.

А дома яго чакае "Грэй" — раўнівы каўказец. Што і казаць, цішком трох дужых сабак заваліў: гаспадару адпачыць трэба, а вы тут сядзіце! Бацьку дапамагаюць абедзве яго дачкі. Толькі так упраўляюцца з уколамі! Але жывёлін павінен лячыць мужчына, асабліва, калі ён хірург, эпізатолаг. Патрэбна моц, вытрымка. Жанчына ад прыроды стварэнне кволае, мяккае. Таму бацька і выступае супраць таго, каб дзяўчынкі пайшлі яго сцежкаю.

Аляксандр Паўлавіч сабак любіць з маленства. У тры-чатыры гады хлапчук разразаў мёртвых, збітых на дарозе птушак, цікавіўся: як там, унутры? У падлеткавым узросце перавязваў "сябрам малодшым" выцятыя лапы, зялёнкай змазваў раны.

— Зараз бы ў лес, на прыроду,— заплюшчыўшы на хвіліну вочы, марыць доктар.— Ды куды ж ты схаваешся ад гэтых вушастых? Нават у бальніцы, калі хварэў, адшукалі ўладальнікі чацвераногіх. І як тут адмовіш?

Вузельчык на памяць. Паважаныя чытачы! Калі ў вас узнікла жаданне набыць сябра, сагрэць цяплом маленькую жывую істоту, а ўзамен атрымаць бязмежную вернасць і любоў — прыслухайцеся, калі ласка, да парады П.В.Арэхава:

— Перш за ўсё неабходна звярнуцца за кансультацыяй да спецыяліста, які параіць, якім чынам, дзе, з якімі дакументамі можна набыць здаровую жывёлу. Лепш за ўсё ў рэспубліканскім клубе службовага сабакаводства альбо ў гарадскім клубе аматараў жывёл. І не спяшайцеся на рынак. Акрамя таго, што выкладзеце немалыя грошы, можаце атрымаць хворага звярка. Неабходна асцярожна адносіцца да кінутых жывёлін, асабліва пры агрэсіўных паводзінах, наяўнасці пены на губах.

Звычайны напружаны дзень скончыўся. Так, уладальнікі шматлікіх жывёлін у гэтай маленькай, але ўтульнай лячэбніцы маюць моцную і трывалую ахову — выдатных спецыялістаў, цалкам адданых любімай справе.

Калідор назаўтра зноў напоўніцца гоманам. Спраўна рухаецца кола часу. Цудоўна, калі побач верны чацвераногі сябар. Вы згодны?

**Алена Паплаўская.**

**Фота С.Брушко**

# НАТАТКІ ЛЯСНІЧАГА

## ДАПАМОГА

Выйшаў на залітую сонцам паляну і прысеў адпачыць пад цяністым дубам.

Стаяў поўдзень, у лесе душна і ціха. Цішыню парушалі толькі плёскат ручая ды сярэбраны посвіст іваглі.

Хораша было на душы, так бы і сядзеў у гэтым зялёным харастве.

І раптам лясны спакой парушыў пранізлівы трывожны крык нейкай птушкі. На ўскраі паляны каля ручая невялікая шэрая птушка з адчайным крыкам то ўзлятала над кустамі, то знікала ў іх. Я зразумеў, што ёй нешта пагражала, падышоў бліжэй і ўбачыў вужа. Ён успаўзаў па галінцы да гнязда, дзе пішчалі яшчэ голенькія птушаняты. Птушка-маці разумела, што яе дзецям пагражае небяспека, і адчайна абараняла іх. Яна пікіравала на вужа, дзяўбла яго і спрытна адлятала ўгору, калі той спрабаваў яе схапіць. І вуж, і птушка так былі засяроджаны гэтай схваткай, што, відаць, не заўважылі маёй прысутнасці.

Я дапамог птушцы. Схапіў вужа і закінуў яго за ручай. Птушка адразу прысела на галіну непадалёку ад гнязда, пазірала на мяне і ціха ціўкала: можа гэтак дзякавала чалавеку. А ў гняздзе бездапаможна варушыліся птушаняты. Нагнуўся да іх ніжэй, а яны выцягнулі шыі, разявілі роцікі – есці прасілі.

Адышоўся ад гнязда, каб не палохаць птушачку і яе дзяцей. У думках пажадаў малым вырасці і хутчэй легчы на крыло. Ды так яно і будзе, бо смелая маці абароніць іх.

## КОШКА-ПАЛЯЎНІЧЫ

Калі заходзіць размова пра зайцоў, я адразу ўспамінаю нашу кошку Мурку. Гэта была звычайная кошка. Вядомасць у нашай вёсцы яна набыла сваімі незвычайнымі паводзінамі. Мурка жыла ў вялікім сяброўстве з сабакам Дружком. Росту яны былі аднаго, елі з адной міскі, жылі ў міры і лагодзе.

Бывала, толькі возьмем вудачкі, каб ісці на рыбалку, а каля ног ужо круціцца Дружок. Не паспеем мы выйсці за аколіцу, як нас даганяе Мурка.

На рыбалцы я ў першую чаргу частаваў рыбкай Мурку. Калі ў яе былі кацяняты, дык яна рыбку не ела, а несла ім. Больш таго, Мурка сама хадзіла на рыбалку, каб пачаставаць сваіх дзяцей. І рэдка калі вярталася дадому без улову. Што яна рыбак добры, пра гэта ведалі ўсе мае сябры.

Аднойчы я з хлопцамі гуляў у лапту. У самы разгар гульні да мяне падбегла сястра і паклікала мяне дадому. "Запрашай і хлопцаў,– сказала яна,– а то не дадуць веры".

Калі мы прыйшлі да нас, то ўбачылі, што каля гнязда Муркі ляжаў заяц.

"Гэта яна прынесла",– растлумачыла сястра. Уся сям'я Муркі ахвотна накінулася на здабычу. І гэта быў выпадак не адзінкавы.

Мурка чаргавала свае заняткі рыбалоўствам з паляваннем.

## ЛАСУНЧЫК

За той час, што працую ў лесе, год ад году чытаю вялікую кнігу – нашу родную прыроду. Вывучыць яе дасканала цяжка, але імкненне ўсё больш умацоўваецца.

Адзін выпадак з жыцця лесу мяне надзвычай уразіў.

Гэта было некалькі гадоў назад. Нашаму лясніцтву быў дадзены план нарыхтоўкі бярозавіку. Усе леснікі ўзяліся за работу, усе, акрамя аднаго. Ён ахоўваў самы аддалены абход. "Я не магу выканаць план",– сказаў ён, калі ўсе разышліся. Сказаў так, быццам паведаміў добрую вестку.

"А ў чым справа?"– запытаўся я.

"Не ведаю. Раней такога не было. Прыязджайце самі, паглядзіце".

Мне быў вядомы гэты ляснік як абавязковы і адказны чалавек, таму я і вырашыў паехаць.

Прыехаў я ў абход на досвітку. Лесніка яшчэ не было. Я прысеў на грудок сухога лісця, задумаўся. Ход маіх думак перапыніў трэск сухой галінкі. Паглядзеў я ў той бок, адкуль ён пачуўся, і знерухомеў. Крокаў за дваццаць ад мяне стаяў лясны прыгажун – лось-перазімак. Ды не адзін. Яны былі ўдваіх. Ласі пачалі піць бярозавік з карытца.

"Ласунчык" – ледзь не крыкнуў я.

"А дык вы ўжо тут!" – пачуўся за маёй спіной голас лесніка. Я азірнуўся, а калі зноў паглядзеў у той бок, дзе стаялі ласі, то іх там ужо не было.

"Тут быў Ласунчык!– сказаў я лесніку.– Ты яго спалохаў".

...А было гэта летась. Гэты ж самы ляснік знайшоў у лесе малое бездапаможнае ласяня. Яго асіроцілі браканьеры. Ляснік узяў яго да сябе, гадаваў, як малое дзіця. Дзеці прывучылі малога да ласункаў і мянушку далі адпаведную – "Ласунчык". Асабліва палюбіў ён чай – падсалоджаную цукрам ваду.

Бачыў я, як падрослага Ласунчыка выпускалі ў лес. Уся вёска сышлася на развітанне з ім.

"Ласунчык, вярніся!" – крычалі яму ўслед дзеці. "Вернецца, дык добра,– сказаў ляснік.– А не – дык няхай гуляе сабе на волі".

Ласунчык пастаяў. Глыбока ўдыхнуў паветра, паглядзеў з удзячнасцю на людзей і падаўся да лесу. З таго часу яго больш не сустракалі.

Уражаныя ўбачаным, мы нейкі час стаялі моўчкі. У кожнага з нас былі свае ўспаміны, звязаныя з Ласунчыкам.

"Бач ты,– парушыў маўчанне ляснік.– Відаць, прывучыў да прысмакаў і сваю сяброўку... Не быў бы ён Ласунчык!"

Яшчэ не раз прыходзіў Ласунчык разам з сяброўкай адведаць смачнага пітва. А план нарыхтоўкі бярозавіку мы ўсё ж перавыканалі. Другія леснікі пастараліся.

**Міхась Шаванда,**
**ляснічы**
**Касцюковіцкага лясгаса.**

## Наша анкета

*1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?*

*2. Што замінае табе быць самім сабой? Твае адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастарамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.*

*3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?*



### Лідзія ЛУКІЯНАВА:

1.

а) Жыву надзеяй на лепшае.

б) Для гэтага патрэбны нейкі пэўны імпульс, штуршок, які абудзіў бы сілы, што дрэмлюць у душы. У маленстве я любіла засынаць, прыдумляючы гісторыі ўсялякіх прыгод ці падарожжаў, а таксама часта перастварала на свой лад сюжэты ў кнігах, канцоўкі ў якіх мне не падабаліся. У 1986 годзе я перажыла псіхалагічны стрэс, шмат чаго адбылося дрэннага, што змяніла мае погляды на жыццё. Разам з тым у мяне знікла прага што-небудзь фантазіраваць перад сном... Пасля я захапілася журналістыкай, але ўвесь час мне хацелася пісаць прозу. Аднойчы на працы, калі перада мною аказалася машынка, я ўзялася і напісала апавяданне, сюжэт якога нарадзіўся з падання, пачутага мною ў час спартыўнай вандроўкі. Я не заўважыла, што скончыўся працоўны дзень, а калі ехала дадому, села не ў той тралейбус — думкі былі занятыя апавяданнем...

2.

а) Мне ў юнацтве хацелася быць на кагосьці падобнай. Гэта прынесла шмат непрыемнасцей у асабістым жыцці. Што было — тое ў мінулым. Трэба заўсёды заставацца самой сабою, не губляць сваёй індывідуальнасці. Калі ты камусьці не падабаешся, не старайся быць акцёрам, не гуляй у жыццё. Знойдуцца людзі, якія прымуць цябе такою, якая ты ёсць.

б) З таго часу, як знік матрыярхат, мужчыны ўзялі ўладу ў свае рукі. Палітыка і шматлікія войны — гэта ўсё ад іх. Вось таму яны і сварацца на бясконцых сваіх паседжаннях, і, здаецца мне, гэтая іх спрэчка ніколі не скончыцца. Таму я да палітыкі стаўлюся абыякава.

Сапраўдным духоўным пастарам для мяне з'яўляецца Хрыстос, і каб усе мы жылі па яго запаведзях, не было б ні войн, ні духоўнага гвалту.

3.

а) О! Я мару, каб зніклі ўсе камерцыйныя кіёскі, што прадаюць надакучлівыя дэтэктывы і сексуальную літаратуру, а на іх месцы з'явіліся кіёскі з кнігамі на маёй роднай мове — рамантычныя, захапляльныя, прыгодніцкія, гістарычныя!.. І каб нашыя, беларускія кнігі перакладаліся на ўсе мовы свету.

.б) Зараз працую над зборнікам апавяданняў.

І апошняе... Вось радкі з майго дзённіка, якія напісаны пасля нарады маладых беларускіх паэтаў і празаікаў у "Іслачы" (1990): "Дзякуй табе, "Іслач", за тое, што тут, сярод хлопцаў і дзяўчат, я знайшла шмат выдатных людзей — сяброў маіх з літаб'яднання "Крыніцы". Цікавыя, добразычлівыя людзі: Юля Алесьніна, Ніна Загарэўская, Аксана Данільчык, Наталля Кулакова, Юры Гумянюк, Юры Карэйва, Мікола Касцюкевіч... Мы збіраліся на вячоркі, дзе пілі гарбату, чыталі вершы і слухалі песні Уладзіміра Клімовіча, Эдуарда Акуліна, Ніны Загарэўскай, Валеры Пазнякевіча, Волькі Акуліч... Там упершыню я пачула цудоўныя вершы Алеся Пашкевіча..."

Для мяне зараз існуюць толькі мая работа і літаратурная творчасць.

## *Постаці літаратуры*



# АЛЕГ ЛОЙКА

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Паэзія Алега Лойкі... нясе моцны зарад чалавечай дабрыні, пульсацыю гуманістычнай думкі, прасякнута прагай красы і шчасця, клопатам пра лёс чалавецтва, пра яго будучыню, сагрэта сыноўняй любасцю да роднага краю, яго працавітых людзей.

**Дзмітрый Бугаёў.**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

## Пішу да запатрабавання

Не чытае мяне ні каліна,
Ні сасонка пад зоркавым ззяннем,
Ні прышчараўская ручаіна,—
Я пішу да запатрабавання.

Не чытаюць ні шыбіны хатаў,
Ані маладзічок зухаваты,
Ні спатканні і ні расстанні,—
Што ім штосьь да запатрабавання?!.

Незвычайная гэта пошта...
Ёкне сэрца, спытае: "Навошта?.."
Што адказваць мне на запытанне?
Прысяброўваць адказ з апраўданнем?..

Ды пісаў, ды пішу ноч да рання
Пры таптанні, глумленні, маранні,
Забыцці, занядбанні, каранні,
Бо я веру ў запатрабаванне!
Бо я веру: з зары — світанне,
Веру ў зерне, што коласам стане,
Веру ў колас, які хлебам стане,
Што не да незапатрабавання!

Вера з любай надзеяй лучыць,
З выкананнем, што не кананне,
Хоць балюча яно, ой, балюча
Усцяж пісаць да запатрабавання!..

## Калумбаўскія каравелы

Калумбаўскія каравелы
Адплываюць у даль.
А я застаюся здранцвелы —
У сэрцы — боль і жаль:

За кожным за небасхілам —
Мара і адкрыццё,
А тут свет, як цень, нямілы,
А тут жыццё — не жыццё;

Фарватар, значыць, фарватар,
Ветразь — як даль і сват,
А тут — без віны вінаваты,
А тут — проста вінават;

Чайка спяшыць апярэдзіць:
"Віват! Добры дзень, новы свет!.."
А тут — безвыхаднасць вярэдзіць,
Тут чорных адно дзён след!..

О, Белай Русі дзень белы,
З-за недалёкіх хваль
Калумбаўскія каравелы
І ты, нарэшце, прычаль!..

## Цёмнае шкло

Цёмнае шкло акуляраў
І легкавых машын,—
Ні вачэй, ні твараў,
Ані — тым болей — душы.

Ды ім відна дарога,
Плошча, я і ты,
А нам не відно нічога,
Акрамя чарнаты.

Хаваліся ў ёй партакраты,
А хто схаваўся цяпер?..
— Чорнае шкло — не краты,—
Цярпі, калі краты цярпеў!..

Цёмнае шкло — хобі,
Мода, любоўніц крыло...
А мо табе не даспадобы
Увогуле проста шкло?!.

— Ды не! Акрамя, што балюча:
Зноў дзелімся, як было,
Цемра ж людзей не лучыць,
Дый вельмі ж біткое шкло!..

* * *

Тут зоркі, як завочніцы,
Гукай ім ці пішы,
Яны не ўвідочняцца
На сесіі душы!..

Рэкламамі забранае
Іх вечнае руно,
Навекі адцуранае
Не бачна, не відно!..

Хай на асфальце слотнае,
Хай пекціць май зямлю,—
Пустотнае — пустотнае,
Люблю, як не люблю!..

Душа скразною ранаю,
Не выкрычаць душы:
Забраныя — забраныя,
Гукай ім ці пішы!..

І мары — марным выраем,
Як ля глухой сцяны,
І шчырае — няшчырае,
Ні праўды, ні маны!

Пясочкам расцярушаным
Рэклама барыша,
І млее зоркай скрушнаю
Душа, як не душа!

Трасу яе, нямую, я,—
Чарнеюць мае сны:
Па зорачках сумую я,
Як мо й па мне
яны!..

## Казала мне сястра з калгаса

Казала мне сястра з калгаса:
"З малога я, як упраглася,
Цягну, бы вол, ад лет да зім
На ўвесь калгас і на сваім!
Сама б таго, што надаіла,
Не выпіла б і не здарыла,
І масла збіла на раён,
Сыроў сцадзіла на вагон,
А ўжо што бульбы накапала,
Каўбас навэндзіла ды сала
І напалола буракоў
На цукар той ці для кароў —
Гара гарой — вышэй Урала,
А тут крычаць, крычаць, што мала,
Нібы ў пясок тое ўтаптала,
Ці ўкрала, ці не падабрала,
А мне ўжо шэйсят, а тут: "Мала!.."
Скажы браток!.."
У горле схне:
Стаю, маўчу, нібы не брат,
І не таму, што шэсцьдзесят
Пракукавала ўжо і мне.

## Расце дзіця...

*Унуку Алегу*

Расце дзіця — крывіначка мая,
Як рэха ад майго сэрцабіцця,
Як хваля не ў завоях ручая,
Як маладзік над ім, расце дзіця;

Як мары маёй светлае прасцяг,
Бясконцага святога пачуцця,
Як зайчык — промня сын і адбіцця
З-пад сэрца і майго расце дзіця;

Расце, як песця запаветная жыцця,
Як мацярык, што просіць адкрыцця,
І як любоў мая, расце дзіця,
І як незабыццё між забыцця.

Бо камнем кану ж, і за кругам круг
Разыйдзецца між вечнага трысця,
І не дзіцём калісьці мой унук
Над Шчараю заплача, як дзіця,—

Ды я да сэрца не той плач тулю,
А нарадзіўшую нас родную зямлю
І кожны парастак, што на любой вярсце
На радасць соснам і дубам расце.

## Ён так іграў

*Алегу Атаманаву*

Ён так іграў, што струны рваліся
з-пад пальцаў,
На новыя ўзлятаючы лады,
Нямеючы, нібыта падшывальцы,
У прадчуванні невядомага: "Куды?.."

Ён так іграў, што мог бы і без струнаў,
Натхнёны, светлы, любы, малады,
І чэзнулі парогі і буруны
Ад прадчування невядомага "Куды?.."

А ён іграў, іграў, як апантаны,
Апераджаючы вятры ўсе назаўжды,—
Нічым было руно, нічым нірвана
Ля прадчування невядомага "Куды?.."

* * *

Мілы ты мой хаосе,
Незацугляны лёсе,
Не як зямлі на восі,
Круціцца нам давялося.

Ды я, аднак, не ў адчаі,—
Не ў маім звычаі:
Прыбой, хоць ён і крапчае,
Не мкне на сабе ён чаек.

Тым больш я — ні чайка, ні хваля,
Верны сасне і калоссю,
Што звеку не прымякчалі!
Вярчэння зямлі вакол восі.

## *Наша анкета*

*1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?*

*2. Што замінае табе быць самім сабой? Твае адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастарамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.*

*3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?*



### Уладзімір МАЛАШОНАК:

1.

а) Жыву, вядома ж, Верай, Надзеяй, Каханнем. І толькі імі.

б) Каб сцвердзіць сябе як творцу, перш за ўсё патрэбна штодзённая праца над сабой. Толькі ў працы можна сцвердзіць сябе сейбітам духоўнасці і культуры. І толькі працай усталёўваецца дысцыпліна думак. Ачышчаючы думкі ад хлуду, мы ачышчаем і дух, накіроўваючы тым самым свае памкненні і жаданні на стварэнне прыгожага. Праўдай будзе, калі скажу: якія думкі, такі і плён працы. І ні кватэра, ні машына, ні безліч багацця і нават не талент і вопыт жыцця не дапамогуць быць творцай, калі не накіруем на гэта ўсе свае сілы. Ну астатняе -- дадасца.

2.

а) Я заўсёды стараюся быць самім сабой. Надзець лічыну -- значыць стаць на шлях падману. А падманваючы іншых, мы падманваем і сябе.

б) Ніякія партыі і ніякія сучасныя лідэры мяне не хвалююць. Кожны павінен займаць сваё месца, і кожны павінен выконваць свой абавязак. Хочацца прывесці добры прыклад з гісторыі старажытнай Індыі, дзе найвышэйшай кастай лічылася каста святароў -- брамінаў. Іх святым абавязкам было навучыць, накіраваць, даць параду свайму народу. І не дзеля грошай альбо ўлады. І не для атрымання асабістых выгод, а каб выканаць дадзенае Богам. І для гэтага кожны святар павінен валодаць вялікімі ведамі... Якімі ж ведамі валодаюць нашы лідэры? Што яны могуць даць моладзі ў плане духоўным? Хіба толькі абяцанні...

3.

а) Мары -- пасланнікі з будучыні! Хацелася ў дзяцінстве, вядома ж, лятаць, здзіўляючыся таму, як гэта проста робяць птушкі. Толькі цяпер я пачынаю разумець, што мара лятаць -- гэта не проста магчымасць, а рэальнасць спазнаць вялікі Сусвет, да чаго чалавек імкнуўся і імкнецца ўсё сваё жыццё. Сапраўды, чалавеку трэба мець крылы. Крылы здзяйснення сваіх мар!

Разам з песнямі маці, разам з казкамі бацькі нарадзілася і прагная мара разумець мелодыі птушак, зямлі, ручая, лесу. Цяпер гэтыя мелодыі нашу ў сваім сэрцы. Вельмі шкадую, што шмат якіх мар не здзейснілася толькі з той прычыны, што жыву ў ляноце.

Спадзяюся, што калісьці напішу нешта добрае. Што датычыцца запаветнай мары, то хачу пакінуць яе ў тайне. Павінна ж нешта быць асабістым.

б) Шмат над чым працую. Але, вядома ж, не хапае часу. Здараюцца перапынкі, пасля якіх увайсці ў нейкі рытм вельмі цяжка. Ёсць шмат недапісанага. Зараз хочацца павярнуцца тварам да асабістага жыцця і чэрпаць адтуль нейкія гісторыі, здарэнні, каб з усяго перажытага нешта напісаць. Уласны вопыт -- зарука поспеху. Сёння над гэтым думаю. І, канечне ж, працую.

в) Што даюць "Крыніцы"? Наша літаб'яднанне -- гэта пачатак вялікіх спраў. Гэта тая самая бруйная крынічка, якая дапамагае мне пракласці новае, сваё рэчышча, якое вядзе ў акіян Прыгажосці, Ведаў, Культуры. Добра, што "Крыніцы" жывуць! Гэта якраз тое месца, дзе можна выявіць сябе як творцу. Вучачыся на прыкладах астатніх, набіраеш для сябе нейкі вопыт, тым самым пазбягаеш тых няўдач, што расстаўляе перад намі жыццё.



### Віктар ШНІП

* * *

Мы забыліся, хто мы такія,
Для чаго мы прыйшлі ў гэты свет.
І душа, калі ёсць, слёзна вые,
У пакутах і ў брудзе жыве.
Даражэе штодзённа шмацце,
І як смецце – людское жыццё.
Ад зарплаты жывём да зарплаты.
Багацейшым зрабіўся багаты
І смяецца, гаворачы нам:
– Я вас зараз куплю і прадам!
Толькі ж мы да канца не дурныя,
Нас не можна купіць і прадаць.
Мы будуем, мы сеем, мы шыем...
Хоць багацця амаль не відаць.
І пакуль шчэ жывём мы на свеце,
Нам ахвота пашаны і свят...
Ды ля Храма насыпана смецце,
І ля Хаты знявечаны сад.

* * *

Яшчэ плыве пацыху карабель,
А пацукі ўцякаюць – хто куды.
Каманда п'е, адзін сляпы грабе,
Не бачачы ні сонца, ні вады.
Трашчыць падлога, і барты трашчаць,
А з мачтаў сыплецца труха і пыл.
І ветразі парваныя вісяць
Анучамі.
І чорны небасхіл
Чакае нас, каб праглынуць праз міг
І карабель наш, і здурнелы люд.
Пакуль плывём, клянём усё і ўсіх,
Забыўшыся пра Бога і пра Суд.
А пацукі ўцякаюць з карабля,
Чарнее ў моры залатое дно.
Ніхто не помніць, дзе яго зямля,
Ды кожны помніць, дзе стаіць віно.
І Богу анікога не шкада
На караблі, дзе гаспадарыць жах...
Пакуль плывём, пакуль шуміць вада
Ніхто не бачыць чорнага крыжа.

## Масква, 1985—87

Святло выключаю,
І цемра чужая
Ізноў заліла інтэрнацкі пакой.
За брудную шыбай Масква залатая,
І шэрае неба, і шэры спакой.
І вецер у скверы сабакам галодным
У пустку нябёс усё вые страшней.
Я ў горадзе гэтым чужынец самотны,
Што ведае мову савецкіх людзей.
Я тут не патрэбны зусім анікому,
Як мне непатрэбны хрушчобы Масквы.
І часта мне сніцца дарога дадому,
І часта мне чуецца шэпат травы
На родных магілах, ля родных сцяжынак...
Гляджу я ў нябёсы, шукаючы зор,
І бачу матулю, і бачу Айчыну,
І хіжага ворана, што распасцёр
Чарнюткае крылле, хаваючы неба.
Я тут не жыву – існую, нібы тло.
Да смерці наеўся маскоўскага хлеба,
І радасці мала мне ў гэтым было.
І думкай пра маці сябе я ратую
І, як за мяжу, шлю дадому лісты.
Штовечар гляджу на Маскву залатую,
Ды бачу я толькі лісцё залатым.

## Самотны

Сярод чорнай травы не шукайце жыцця,
Там нябыт і забытыя мною світанні,
Дзе, стамлёны, я слухаў дыханне лісця
І пакінуў на лепшыя дні спадзяванні.
Там у чорнай траве адзінота жыве,
Яна помніць мяне і чакае сустрэчы.
І мой крыж у нябёсах высока плыве,
Цень ягоны чарнюткі згінае мне плечы.
Я іду па дарозе і знаю – куды,
Сярод чорнай травы я ўпаду і не ўстану
І ніхто не падасць жыватворнай вады,
І ніхто не прамовіць: – Памёр вельмі рана...

## Белая царква

У шэрым полі белая царква.
Там на крыжах трымаюцца нябёсы
І на вачах людскіх світаюць слёзы,
І да сцяжын схіляецца трава.

Там цішыня навокал і спакой,
Там можна гаварыць і слухаць Бога.
Іду ў царкву, і на душы трывога
За гэты свет, дзе мы жывём з табой,
Дзе пройдзе час і станем мы зямлёй
І нашы душы адлятуць да Бога...

Услед за мной даносіцца здалёк:
– Баішся Бога, ды ў яго не верыш...
Але ў царкву я адчыняю дзверы,
І ўміг знікае цішыня і змрок,
І Божае святло дае мне зрок,
І гэты дзень, што быў нядаўна шэрым,
Я зноў люблю, і ў дабрыню я веру,
І Божы воблік бачу між аблок,
І Богу назаўжды сябе даверу,
І ад сцяжын адхлынецца трава...

У шэрым полі белая царква.



Ён.

Мал. Наталлі Бордак.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *



### Мікола ВІЧ

## Калі ўстануць крыжы...

Праўду ведаюць толькі адныя крыжы...
Яны кажуць яе —
хоць не чуе сучаснік,
хоць вякі на Радзіму не прыйдуць з бясчасся,
як не прыйдзе й Радзіма сама з-за мяжы.

А мы верым,
па кроплях збіраючы кроў,
што лілася вякамі за крэўную справу,
у бясслаўі мы трызнім далёкаю славай,
нам здаецца — зямля ўжо дрыжыць ад падкоў...

О не! Продкі не ўстануць —
мо толькі крыжы
вырвуць ногі з магіл, павыпростваюць спіны,
і тады ўжо адпомсцяць за тых, хто загінуў —
так,
што болей ніхто
не захоча тут жыць!

* * *

Я складу свае вершы пад камень,
што самотна у полі ляжыць...
Каб ён змог, не скрануты вякамі,
мае вершы з зямлёй ажаніць!
..."Ён жа змог, а ты і не сцяміў",—
калі-небудзь нахлусіць мне лёс.
Толькі ведаю я: гэта камень,
а не вершы мае...
Гэта камень
у зямлю каранямі прарос.

### ТРЫЯЛЕТ

Нешта страшнае-страшнае будзе —
цісне сэрца благое чуццё.
Што — не ведаю, каб жа знаццё...
Толькі нешта ўсё ж страшнае будзе...
І на вулцы чыёсьці выццё
гэтай ноччу нікога не збудзіць...
Нешта страшнае-страшнае будзе —
цісне, мучыць благое чуццё.

* * *

Я не белы
і я не чорны.
Мяне бусел прынёс учора —
заўтра крук маё знойдзе цела.
Я не чорны
і я не белы.

Я не лепшы
і я не горшы.
Ды калі б я і стаў харошы,
праклялі б мяне самі вершы.
Я не горшы
і я не лепшы.

Я не першы
і не апошні.
Белы бусел — на цёмнай пожні,
побач — крук, ад зямлі чарнейшы...
Не апошні я
і не першы...

### ЗДРАДЫ

Калі выгнуцца пальцы змеямі
і чужы сабе знойдуць прыстанак,
тую ўспомні, з кім сэрца падзелена,
**схамяніся – ты здрадзіў каханай.**

Калі так, што ніхто й не уведае,
адрачэшся святых і адзіных —
песні матчынай, мовы дзедавай,—
**пераксціся – ты здрадзіў Радзіме.**

Калі ўрэшце гарэлкаю рускаю
грэх зап'еш і суцішыш сябе:
"Вінаваты не я, а спакусы",—
**лепш памры, бо ты здрадзіў сабе.**

### ТУТ,
### або роздум менчука, карэннага ў першым калене.

Тут —
паміж дзвюма вёскамі,
паміж двума дрэвамі,
паміж дзвюма хатамі,
паміж дзвюма душамі —
мая Радзіма — Менск.

А з тых дрэваў яго не ўбачыш,
а па дрэвах тых хаты знойдзеш
І ўгадаеш па хатах душы,
па вачах нібы...

Дзе ж мая душа?

Тут —
паміж дрэвамі, дзе не ўгледзіш Дрэва,
паміж хатамі, дзе звялася Хата,
паміж душамі, дзе... Душы няма?



## Сяргей ВЕРАЦІЛА

* * *

Не хачу зімы.
Не хачу восені.
Не хачу вясны.
Толькі лета.
Няшчырае роднае лета.
І абмялелая рэчка,
і старое рэчышча.

Некалькі кропель святла.
Пасярод ашалелых думак.

* * *

Яшчэ адзін пайшоў у дрымоту дзень,
як сон, успомніцца ён заўтра.
А я ніяк з ім развітацца не магу.
А мне не верыцца, што ён пражыты мною.

Слядоў не пакідае на аконным шкле
няўрымсны, вольны вецер.
І я адзін мінулае не ўспомню,
калі не дапаможа мне папера гэта.

* * *

Зазірнуў я сёння за вокны
і ўбачыў – увесь свет бялюткі.
Хоць за хмару схавалася сонца,
і суседні не відно будынак.

Гэта снег...
Быццам, як у маленстве,
сэрца радасцю аж зайшлося.
Стрымгалоў выбягаю з хаціны,
каб хутчэй дакрануцца да шчасця.

* * *

Ад чорнае гарбаты
(Колькі высмактаў!),
можа, счарнела душа.

Але зусім не балюча
прыходзіць золак.

* * *

Хваляць Сталіна, абражаюць Сталіна.
Побач з парнухай – пануры Хрыстос.
А вецер з Клайпеды ці, можа, з Таліна
зноўку ў горад макрэчу прынёс.



## Вячаслаў КОРБУТ

* * *

Мае думкі не супалі
з арбітай бяссоннай ночы.
Мае першыя вершы
загінулі ў кроплях поту.
А на вуліцы
пах каляровай паперы
і вясёлыя крыкі
п'яных вандроўніц.

З галавою акунуся
ў пруруб удачы,
задымлю цыгарэтай
у твар паднябесся.
Ля прыгожай іконы
знявечу рукі
і сабе і мільёнам
грэшных душаў.
Каласіцца ў сэрцы
няспелае жыта,
а вясна дажывае
свой першы ранак.
Гэта толькі квадраты
нямытых вуліц
на вачах паміраюць
у срэбры надзеі?..

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *



Галіна БАГДАНАВА

# ЦЫМКАЛОІД "МАДЛЕН"

*Фантастычная праўда*

Ён ужо тры дні цешыўся сваім вынаходствам. Ён, Юрый Цымкала, сканструяваў сістэму, пра якую марыў, здаецца, яшчэ тады, калі нікому ў галаву не прыходзіла дарыць яму замежныя цыгарэты і электрабрытвы. Яму, усёй раднёй прызнанаму вундэркінду, прыносілі выключна матэматычныя галаваломкі і пластмасавыя, металічныя канструктары. А цяпер, можа і такое стацца, гэты апарат назавуць у яго гонар... Хоць бы і так: цымкалоід!

Вось ён, прыгажун, злучаны чорным нервам з тэлефонам, побач, на газетным століку. Пад чырвоным чэшскім таршэрам. Ён, няхай сабе і цымкалоід, п'е энергію са звычайнае разеткі, таемна свеціцца зялёным экранам, весела падміргвае бліскучымі, колеру слановай косці клавішамі... Націсні, пакруці тэлефонны дыск — і на экране з'явіцца той, каго пажадаеш бачыць. Ты можаш нічога не казаць, нават пакласці трубку, а пачуеш, пра што гавораць, што думаюць людзі. Папраўдзе, Юра сам не чакаў такога выніку. Ён канструяваў простае відэо, якое меркаваў разам з магнітафонам падключыць да тэлефона. Каб ведаць, хто звоніць ці званіў і што хацеў сказаць. За мяжою для гэтага даўно існуе персанальны камп'ютар. Але прывязі яго гатовенькі з той жа Амерыкі, ці вынайшаў бы цымкалоід?.. Цымкалоід, пра які пакуль што ніхто не ведае.

За акном цісне, ажно трашчыць мароз, заходзіцца плачам завея. А на руцэ іграе, меладычна пасвіствае амерыканскі гімн электронны гадзіннік. Ежа ў халадзільніку, вада ў кране. Яму, вынаходніку, Юрыю Цымкалу, і сёння можна не вылазіць са сваіх вароных джынсаў і расшпіленай на моцнай, яшчэ з шалёнага ялцінскага лета смуглай шыі, каўбойкі. Лепш прытуліцца шчакою да мяккае падушкі, і даць сваёй бялявай, акуратна пастрыжанай галоўцы спачыць. Яна заслужыла. Вось што значыць матэматычны без усялякіх адхіленняў склад розуму, спадчынная, у час заўважаная і развітая здольнасць плюс прыветная белазубая ўсмешка. У свае трыццаць ён ужо абараніў кандыдацкую, працуе ў Акадэміі навук, выкладае за паўстаўкі ў політэхнічным, і нават вынайшаў цымкалоід.

Яго не страшыць будучыня. Як і маці, ён, Юра, умее хаваць свае сапраўдныя адносіны да людзей за кампліментамі і вясёлымі жартамі. Як і бацька, вось-вось стане доктарам, а то і прафесарам.

Захацеў вывучыць японскую мову — запісаўся на курсы. Запатрабавалі студэнты выкладаць па-беларуску — пачаў ледзь не штовечар хадзіць у Купалаўскі тэатр. Пазнаёміўся з Кацярынай. Будучая настаўніца. Кніжкі прыносіла. "Чорны замак Альшанскі", "Дзікае паляванне караля Стаха"... Дапамагла напісаць па-беларуску курс лекцый. Студэнты задаволены. Цяпер зноў можна вяртацца да навуковых часопісаў, фантастыкі і дэтэктываў. Да лічбаў і дакладных разлікаў. Цымкалоід, гэты цудоўны вынік утрапёнае, карпатлівае працы, яшчэ больш сэканоміць час. Але назваць яго трэба як-небудзь прыгожа... Напрыклад, "Мадлен". Юра ажно заўсміхаўся сам сабе ад такое дарэчнае згадкі. Летась у Ялце ён пазнаёміўся з Мадлен. Чароўная, палкая, нястрымная Мадлен. Ад яе няўрымслівай вынаходлівасці нават яго, вопытнага мужчыну, кідала ў сорам.

Юра падняўся на локці, націснуў на клавіш цымкалоіда і набраў тэлефон. На экране адразу з'явілася аголенае круглае плячо, знаёмы блакітны пеньюар. Мадлен, як і ён, песцілася, толькі не на канапе — у разасланым ложку. Залачоны, старога фасону тэлефон стаяў побач, толькі руку працягні, на крэсле. Ён надрываўся, званіў. А Мадлен быццам не чула. Раўняла пілачкай пазногці і нешта мармытала сабе пад нос. Толькі зразумеўшы, што тэлефон не сціхне, здалася... Яе рука павольна адкінула за спіну чорныя валасы і, па локаць вылузнуўшыся з празрыстага рукава, пацягнулася да трубкі...

— Алё-ё... — прамовіла Мадлен вальяжна.

— Мадлен? Салют! Гэта я. Чым займаешся?

— Так... — мармытнула яна і пазяхнула. У тэлефоне гэта было падобна на ўздых.

— Стамілася мая бедная кошачка? Можа, пад'ехаць дапамагчы?

Мадлен, вядома, не адчула іроніі.

— Не-не... Заўтра, заўтра... — Мадлен павярнулася да дзвярэй, і Юру падалося, што гэта яму адрасаваны яе звыкла юрлівы, насмешлівы пагляд.

— Добра. Тады да заўтра?

Юра націснуў на тэлефонны рычаг, але клавіш цымкалоіда не адпускаў. І таму, як і Мадлен, пачуў раптоўны выбух джазу. Мадлен кінула трубку, сцепанулася. У кватэры яшчэ нехта быў. І гэты нехта ўключыў у зале магнітафон. Нарэшце дзверы адчыніліся... Вусаты, з каламутнымі п'янымі вачыма бамбіза... у плаўках. Мадлен стала на калені і расхінула пеньюар...

Відэо не перадавала рэзкага салодкага паху парфумы, паху поту і плоці. Але менавіта гэты пах літаральна пачаў душыць Юру, які яшчэ з першых замежных паездак не любіў глядзець парна-фільмы. Да таго ж Мадлен паўтаралася...

Разам з экранам патухла і яшчэ колькі хвілін назад вабная і жаданая, а цяпер далёкая і халодная, як зорка з чужога сусвету, Мадлен... Усё ж маці мае рацыю: ён, Юра, дасюль так і не навучыўся разбірацца ў жанчынах. А яшчэ пацьвельваў з хлопцаў: як не брыдка мець на двух адну каханку... У душы перасела жорсткая спусцеласць.

Несупынны, даволі гучны тэлефонны гудок не адразу дайшоў да ягонай ашаломленай свядомасці. Толькі цяпер Юра заўважыў, што ўсё яшчэ трымае ў руках трубку і, крануўшы клавіш, набраў першае, што прыйшло ў галаву. Трапіў да аднакурснікаў Лазерскіх. Падышла, ды не — падскочыла Анюта...

— Алё, — весела гукнулі і вывелі нарэшце яго з утрапення знаёмыя пекныя вусны.

Юра ледзь стрымаўся, але не адказаў. Калі ж Анюта, паціснуўшы плячыма, паклала трубку, літаральна прыпаў да экрана. Анюта, круглявая, ружавашчокая, была ў сваім любімым белым, у дробны сіні гарошак халаціку. Гадоў дзесяць назад, калі ездзілі ў Гурзуф збіраць вінаград і табаку, бегала ў ім на "Спадарожнікаўскі" пляж. Тады Мішэль са сваёй гітарай і песнямі, якім, ці бачыш, не хапала дзявочага голасу, адбіў Анюту ў Юры.

Анюта нахілілася да люстэрка, перавязала хвосцік, здзьмухнула з ілба цяпер зусім беленькую, мусіць, падфарбаваную грыўку і, смешна скасіўшы вочкі, пацалавала свой адбітак. У пакоі заплакаў малы. На хаду расшпіліўшы халат, яна прымасцілася на крэсле... Юра ніколі не бачыў, як жанчына корміць немаўля. Толькі ў кіно.

Юра нервова пачухаў падбароддзе. Зноў пачыналася алергія. Ці гэта ад новае электрабрытвы, ці, можа, падзейнічаў адэкалон, які падарыла Мадлен. Юра выйшаў у калідор, закурыў.

Калі вярнуўся, Анюта соўгала па падлозе туды-сюды калыску і спявала. Хораша, пяшчотна.

Раптам рэзкі тэлефонны званок паласнуў па экране ліловымі маланкавымі паскамі. І па-за Юравай воляй усплылі цемнач, завея, асветлены на час размовы таксафон ля паштамта. Юра нервова затушыў у жалезнай грузінскай попельніцы цыгарэту...

Зноў Каця. Трэцці дзень звоніць. То з дому, то вось так з вуліцы. Няўжо не зразумела, што калі ён, Юра, паабяцаў і не пазваніў, значыць, усё. Навошта гэтыя дзяціныя гульні. Лепш бы апратку сабе новую купіла. А то і з экрана відаць, што карычневая футра з белаю, - не, ужо шэраю на капюшоне і манжэтах аздобаю, выцерлася, і гузікі ледзь трымаюцца... Юра рэзка аблізнуў ссохлыя ад курыва вусны. Шкада, што цымкалоід не мае зваротнай сувязі. Выслухала б Каця ягоную водпаведзь і знікла б з далягляду. Можна, вядома, усё выказаць пры сустрэчы. Але ў яго зусім няма настрою бачыць яе. Яму хочацца расслабіцца і адпачыць. Выпіць, адзін не вып'еш, Мадлен змадленілася... А Каця, гэтае наіўнае дзяўчо з шырокарасплюшчанымі, журліва-блакітнымі вачыма і смешным кірпатым носікам, нават каб хацела, яе не заменіць. Кацярыну цягне да сур'ёзных размоў. І лашчыцца, як сляпое кацяня... Увогуле,. ён, Юра, пасля таго, як Анюта здрадзіла яму з Мішэлем, перастаў верыць жанчынам. А Каці ён нічога не вінен. Нічога не абяцаў. Ну, схадзілі ў Купалаўскі тэатр, у госці пару разоў прыехала. І яму, і ёй было з кім пагаварыць па-беларуску. А яна дзівачка, усё ўсур'ёз. Вершаў цэлы сшытак прынесла. Колькі разоў ён, Юра, паўтараў Каці, што вершы на яго абсалютна не дзейнічаюць. Цяпер — хочаш не хочаш — сядзі, глядзі бясплатнае кіно.

Каця, не дачакаўшыся адказу, выняла з аўтамата, схавала двушкі, пайшла ўздоўж паштамта. У руцэ — напакаваная дарожная сумка. Мусіць, зноў напякла дранікаў, склала ў каструлю і, каб не застылі, загарнула газетамі і ручніком.

Вось аўтобусны прыпынак. Юра з прыкрасцю ўздыхнуў. Зараз будзе тут. Трэба патушыць святло, зацягнуць шторы, стаіцца. А Каця ўжо ля іхняга магазіна, пад ліхтаром, у незашклёнай будцы. У іхнім раёне яшчэ не прыладзілі таксафонаў. Паставіла сумку, набрала нумар...

Юра ўхапіў трубку, з насцярогаю дачуўся, як аўтамат праглынуў двушку, і тут жа націснуў на рычаг. Каця зноў доўга шукала ў кішэні двушку, набірала неслухмянымі з мароза пальцамі нумар.

— Алё, алё, гэта я... — прагаварыла яна ахрыплым голасам насустрач маўчанню.

Юра адчуў: да горла падступаюць словы, але зноў нічога не вымавіўшы, паклаў трубку. Каця, збянтэжаная, доўга прыглядалася да вокнаў. Потым рушыла па снежным цаліку да пад'езда. Зноў прыцемак, жаўтлявыя рэдкія лямпачкі. Замест таго, каб сесці ў ліфт, падымаецца пешкі.

Каця звоніць, чакае, уздыхае і нарэшце тупае ўніз. Выйшла з пад'езда і... паслізнулася, упала. Недарэчна дзынкнула, ляпнула крышка каструлі. У сумцы і праўда, мусіць, дранікі... Юра падхапіўся з канапы, падаўся да дзвярэй, нават крануў замок. Не здагадаўся, што дастаткова запаліць святло, і Каця зразумела б, што ён дома, перазваніла б ці зайшла. Але гэтае простае рашэнне не прыйшло ў разумную Юраву галаву. А на мароз выходзіць не хацелася. Зноў вярнуўся да цымкалоіда.

Каця, няўклюдна абапёршыся рукою на сумку, паднялася, апошні раз зірнула ўверх да цёмных вокнаў і, кульгаючы, пайшла да аўтобуснага прыпынку. Яна смыкала чырвоным, ды не, нават ужо фіялетавым носікам, да крыві кусала бледныя парэпаныя вусны і плакала. Слізгануўшы позіркам па ягоных вокнах, зноў вярнулася ў будку тэлефонааўтамата. Ліхтар патушылі, і лічбы было ледзь разабраць. Яна званіла не двушкаю — дзесятачкай. Зацяўшы дыханне, слухала, слухала доўгія гудкі.

Але Юра не ўзяў трубкі. Ён толькі выйшаў на кухню і закурыў. Нязнаны жаль падступіўся да горла. Каб жа Каця была не Каця, каб шукала не яго, а каго іншага, выйшаў бы і супакоіў, правёў бы. А так... Некалі ж трэба канчаць. Няхай думае, што ён жорсткі, злосны чалавек. Можа, ёй будзе лягчэй забыцца. Ён, Юра, не створаны для такіх, як Каця.

А з відэо пачалі прасочвацца думкі. Ці гэта Каця гаварыла ўслых? Плакала і шаптала:

— Юрась, Юрась... Што ты з сабою робіш... Я разумею, з табою ўсе вельмі жорстка абыходзіліся. Ты расказваў: бацькі білі, жанчыны здраджвалі. Цяпер, каб самасцвердзіцца, табе трэба хоць каму адпомсціць. Але завошта ахвяраю ты выбраў мяне? Я ж табе хацела толькі дабра. Ты ж сам казаў, што я табе падабаюся. Казаў, каб раней сустрэў, узяў бы за жонку. І я думала, здолею табе дапамагчы... Табе цяпер трэба каго-небудзь пашкадаваць. Абавязкова. У сваёй паняверцы ты счарсцвеў душою. Табе апрыкла не я, а ўсё жывое... Ты зацыклены на лічбах, і здольны адгукацца толькі на штучнае, кідкае і фальшывае...

Нарэшце Каця мінула самую страшную ў іхнім раёне заснежаную пустку ля новабудоўлі. Спыніла таксі. Таксіст, які, мусіць, бачыў, як хадзіла яна туды-сюды, уздыхнуў:

— Зусім вы сябе не шкадуеце...

А Каця, бы не чуўшы, стаілася ў куточку на заднім сядзенні і засяроджана дыхала, саграела рукі.

Юра націснуў на клавіш і экран патух. Але цяпер ён ужо не мог заставацца сам-насам з сабою... І зноў набраў тэлефон Лазерскіх. Анюта песціла яго шчаслівага суперніка Мішэля. Той, паклаўшы сваю кучаравую светлую галоўку ёй на калені, выцягнуўся на канапе, Анюта заспявала яму калыханку... І Юра, як праваліўся, заснуў... Не пачуў яшчэ аднаго званка. Ён ніколі не сніў каляровых сноў. А тут... Смарагдавая хвалістая трава — і па ёй шапатлівыя, шматколерныя жывыя кветкі. З пялёстка на пялёстак перакатваюцца расінкі. Пахне медуніцаю і суніцамі. Ён, Юра, шукае пунсовыя ягады. А побач нехта, як першым крокам, радуецца кожнай ягонай знаходцы. Нехта шчаслівы ягоным шчасцем. Жывая рука пяшчотна праводзіць яму па твары, шыі, плячы...

Юра прахапіўся... Зазвінела шкло. У экране свяцілася дзірка. На падлогу ссыпаліся акрываўленыя шкельцы. Спалатнелы, ён агледзеў сваю далонь, і выпадкова націснуў на клавіш магнітафона. Той зашаптаў: "Не бойся... Мяне больш няма... Не бойся, мяне больш няма...".

Юру падалося: нейкі ценкі жудлівы прывід сноўдаецца ў барвовым прыцемку пакоя. Ён падхапіўся, адсунуў шторы і заплюшчыўся. Да мігатлівага карункавага шкла прыпаў і рассыпаўся шматколернымі самацветамі-бліскаўкамі ружовы марозны ранак. Скрозь калючы дыяментавы ўзор больш нічога не было відаць.

*Выдавецтва "Мастацкая літаратура" рыхтуе да выдання анталагічны зборнік "Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай". Яго склалі выбраныя творы сямідзесяці беларускіх паэтаў, што былі напісаны ў мінулым стагоддзі па-польску. Сярод аўтараў — Юліян Корсак (1806—1885), які нарадзіўся ў Слоніме, вучыўся ў Віленскім універсітэце, жыў на Дзятлаўшчыне, у Навагрудку, выдаў некалькі паэтычных кніг, дзе натуральна выяўлена і па-мастацку матэрыялізавана сыноўская ўвага і любасць аўтара да свайго краю. Верш "Зорка Лятавец" узнаўляе пэўны кут светабачання беларусаў, іх хрысціянскую стрыманасць і пераборлівасць ва ўспрыманні космасу. Пазіцыя ж аўтара падмацавана тлумачальным дапіскам да гэтага верша: "Зорку, што падае з Неба, народ наш у сваіх паданнях называе Лятаўцам, або злым духам, якому прысвойвае патаемныя мілаванні з кабетамі". Думаецца, што і верш і тлумачэнне да яго скіруюць увагу юных прыгажуняў на забыты, але варты сучаснага асэнсавання маральна-псіхалагічны вопыт свайго народа.*

# ДА ўвагі прыгажуняў...

Юліян Корсак

## Зорка Лятавец

Вось і поўнач, цёмнасць ночы,
Сон дзяўчына пакідае,
Устаўляе ў неба вочы
І Лятаўца выклікае.

"Выйдзі, блісні з-за аблокаў,
Покуль дзесьці спіць світанак.
Ты майму прысвечвай воку,
Прамяністы мой каханак!

Сэрцам, думкамі сваімі
Я далёка ад зямлянаў
З той пары, як залатымі
На мяне вачмі ты глянуў".

Паяснелі тут даліны,
Зорка з хмураў выглядае
І ў абдымкі той дзяўчыны
Залатым дажджом спадае.

Так упаў Лятавец з высяў,
Прывітаў яе вясёла:
"Да пляча смялей хініся
Гнанага з Нябёс Анёла!

Пакідай сваю хаціну,
Зведаем сусвет без меры,
Млечны шлях, усе мясціны,
Усе падсонечныя сферы.

У росах зорыстай купелі
Ціхай ноччу пакупаю
І на мяккай мгле-пасцелі
Я цябе закалыхаю".

"Так душу маю узносіць
Слоў тваіх улада, любы!
Ды ў цябе ёсць пэўна штосьці
Ад пякельнае загубы.

Чула, што ў любві падтрымка
Ёсць гарачым толькі слёзам,
Я ж дрыжу ў тваіх абдымках,
І сляза твая з марозам!".

"Што ты, мы парой начною,
Дзе й арла не бачыць вока,
Узляцім вышэй з табою,
Аж пад зоры, так высока!".

І ўзляцелі над хацінай,
Зведалі сусвет без меры,
Млечны шлях, усе мясціны,
Усе падсонечныя сферы.

Па вандроўцы той дзяўчына
Больш не ўстала ўжо з пасцелі,
Стала ўся нібы націна,
Вусны згаслі, пабялелі.

Разняслася весць па вёсцы,
Што вампір яе кусае,
Хто даў веры пагалосцы,
Хто шкадуе, спачувае.

У бяссонніцы, сумотах
Рэштку дзён яна страчала;
Цела ўсё й душа ў сухотах,
Сохла, петрала — й сканала.

Хай у марах дум сумоўе
Аб прыгожым не знікае,
Бо жывых жыццё й здароўе
На адной зямлі сплывае.

Не гані жыццё жаданнем,
Бы Араб той праз пустыню,
Што йдзе да вады ў падмане
І ад смагі ўрэшце гіне.

Нас нябеснае узрушыць,
Дух спазнае, скуль паходзіць;
Хараство мудрэйшых душаў
Неба і зямлю пагодзіць.

Прадмова і пераклад з польскай Уладзіміра Мархеля.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *



Мікола КАСЦЮКЕВІЧ

# Сустрэча

## Апавяданне

Віктар выбраўся з гасцей, калі ўжо добра сцямнела. Ён вырашыў прайсціся пешшу, хаця позні лістапад адчувальна прабіраў праз шпацырку і задзімаў пад калашыны.

Сівыя рэўматычныя аблокі цяжка паўзлі па ліловым небе. Машын амаль не было, і рэха крокаў мякка згасала між дрэў, што стаялі абапал дарогі.

На вялікім мосце праз Свіслач трое дзецюкоў з выглядам філосафаў, абцяжараных думкай, як лепш дачапіцца да чалавека, недвухсэнсоўна спыніліся перад адзінокім прахожым.

Віктар, нягледзячы на міжвольнае ўзбуджэнне, без боязі чакаў пачатку. Культурыст, ён быў упэўнены ў сваіх някідкіх пад вопраткай цягліцах. Мусіць, інтэлігентная знешнасць і акуляры выклікалі на шчырасць, бо сучасныя "робін-гуды" не сталі выдурацца наконт патрэбы дзяліцца курывам ці пытацца, чаму ён без капелюша, а сказалі проста і зразумела:

– Чуеш, кент, патрэбны грошы.

– Колькі? – спакойна спытаў Віктар.

Вышэйшы і, відаць, галоўны, узяў за шпацырку і лаканічна ўдакладніў:

– Усё, што ёсць. Плюс гадзіннік.

– Прабачце, і грошы і гадзіннік мне самому патрэбныя. – Пры гэтым Віктар пасміхнуўся і мякка зняў з пляча руку чужака; ён канчаткова авалодаў сабой і не збіраўся быць занадта далікатным.

У адказ дзяцюк нешта прамармытаў і з нечаканай злосцю паспрабаваў даць Віктару каленам пад жывот. Але той быў напагатове, адхіліўся і зрабіў падножку. Учэпістыя рукі незнаёмца трымалі моцна, і яны паваліліся разам. Прычым локаць Віктара трапіў хлопцу на горла, што адчулася па свісцячым хрыпе і аслаблых руках.

Не паспеў Віктар падняцца, як моцны, добра пастаўлены ўдар нагой шпурнуў яго на парэнчы. Ад непрыемнага кантакту галавы з жалезам вочы выпусцілі сноп знічак. Віктар ледзь паспеў ачомацца і развярнуцца, каб перахапіць брудны чаравік перад самым тварам. Становішча з задранай нагой у новаяўленага каратыста было няўстойлівае, і праз імгненне ён жорстка прызямліўся спінай на асфальт. А ледзь не цэнтнер, апушчаны ў скачку на грудзі, канчаткова адбіў ахвоту ў бліжэйшы час займацца чым-небудзь, акрамя адпачынку.

Заставаўся апошні, на выгляд самы малады. Няўклюдны, з наіўным дзіцячым тварам, ён выплюнуў за некалькі хвілін столькі слоўных памыяў, што нармальныя вушы не ўспрынялі б і за год. Віктар хацеў сказаць яму штосьці павучальнае і даручыць клопаты пра далейшы лёс таварышаў, але выхаплены нож і ашалелыя вочы не пакінулі нічога іншага, як збіць нахабніка з ног і канчаткова двума ўдарамі супакоіць. Добры і лагодны – сапраўдны здаравяк – Віктар не быў прыхільнікам падобных метадаў. Толькі думка, што іншага выйсця не было, хоць неяк супакоіла яго сумленне.

На гэтым эпізод, здольны ўпрыгожыць які-небудзь не вельмі добры кінабаявік, не скончыўся. Адно Віктар паправіў акуляры і намерыўся пайсці, як метраў за дзесяць ад сябе ўбачыў ладную купку малойцаў – хто з ланцугом у руках, а хто проста шырокі ў плячах. І ўсе павольна насоўваліся на яго. "У такія гульні я не гуляю" – непрыемны халадок прабег па спіне, і ён пачаў павольна, трымаючы дыстанцыю, адсоўвацца назад. Але чаму ж яны так марудзяць? Няўжо спадзяюцца, што ён будзе чакаць і не пастараецца выціснуць з сябе звышспрынтэрскія магчымасці. І толькі калі азірнуўся назад, усё стала зразумелым: адтуль таксама сунуўся ланцуг не менш рашучых постацей. Упэўненасць, што ў патэнцыяльнай ахвяры няма, як у Карлсана, маторчыка з прапелерам, дазваляла вулічнаму трыбуналу расцягваць задавальненне.

"Аблажылі мяне, аблажылі..." – мільганулі ў Віктаравай галаве радкі з Высоцкага і тут жа саступілі месца амаль жывёльнаму страху, бо трое няўдачлівых шукальнікаў прыгод каля яго ног у лепшым выпадку абяцалі невясёлую перспектыву ўсё астатняе жыццё працаваць на аптэку. Як зацкаваны звер, ён крутануўся туды-сюды і цела, не параіўшыся з галавой, вядомае выключна інстынктам і прагай да жыцця, прыняло бадай адзінае ўратавальнае рашэнне. Як у добрага бар'ерыста, яно перамахнула праз парэнчы і паляцела ў рэчку з прыгожай назвай. Паспеўшы за бясконцы палёт адчуць сябе яблыкам, што ляціць на спацелую лысіну славутага фізіка, Віктар узбіў самкнутымі нагамі чорнае калыхлівае люстра і знік у вадзе. Ногі з'амартызавалі аб неглыбокае ў гэтым месцы дно і неўзабаве ён, крыху ачумелы ад падзення, выграбаў да бліжэйшай палі...

Даўно скончаны купальны сезон не пакідаў магчымасці ў такім становішчы перачакаць небяспеку. Клацаючы зубамі, ён праплюхаў па пояс у вадзе, хуценька выбраўся на бераг і паспадзяваўся на волю лёсу і ўласныя ногі. Невядома, дзе і пра што ў той момант думалі ягоныя праціўнікі, але ён стараўся як мага шпарчэй перасоўвацца ў прасторы...

На прыпынак прыбег своечасова, каб якраз ускочыць у адчыненыя дзверы тралейбуса. Познія пасажыры, відаць, моцна дзівіліся з яго незвычайнага выгляду, ды ён не звяртаў на гэта ўвагі. Яго займала толькі тое, як неўпрыкмет прайсці ў свой пакой, каб не апраўдвацца перад маці за гэткі неахайны выгляд.

Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка "Чырвоная змена" (Дом друку. Праспект Ф.Скарыны, 77,пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-56- 53

Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА.



# Фестываль прызямліўся ў Гародні...

Сусветна вядомы румынскі драматург Эжэн Іанеска аднойчы сказаў: "Тэатр бескарысны, але неабходны". Напэўна, знайсці нейкі сэнс у гэтым выразе спачатку складана, як складана ўвогуле вызначыць логіку ў п'есах (і словах) драматургаў-абсурдыстаў. Аднак усё ж пагодзімся: тэатр нікому і нічому не служыць, ён пазбаўлены ўсялякіх абавязкаў і абавязацельстваў і таму, магчыма, ён бескарысны. Але можа менавіта гэтая яго "пазбаўленасць" ці, па-іншаму, свабода, і неабходна людзям, каб дапамагчы ім знайсці ўласную свабоду духу. І калі я правільна разумею абсурдыста Іанеска, то прыходжу да думкі, што тэатр – адзін са сродкаў мыслення, які якраз і можа паказаць нам на правільны шлях.

А ўвогуле, ці пра гэта сёння? І ці не знішчыў ужо сябе тэатр пасля таго, як настала доўгачаканая свабода? Пытанне, якое сёння задаюць многім і многія, без сораму прызнаючы сваю ўласную "заідэалагізаванасць": тэатр – гэта мастацтва, яно вечнае і жыццесцвярджальнае і таму павінна ўратаваць свет. І можа часам карысна на хвіліну забыцца на чэргі і нястачу і не думаць пра дзень наступны, бо ён хутчэй за ўсё будзе такім жа "атручаным" самаўпэўненай інфляцыяй і нецвярозай палітыкай, а проста прыйсці ў тэатр. Туды, дзе можна здабыць нажыву для розуму і асалоду для сэрца і дзе не будзе гатовых рэцэптаў, а адны толькі пытанні...

Штогадовы фестываль "Балтыйская тэатральная вясна" на гэты раз такую магчымасць падарыў старажытнаму Гродна. Гораду, які, нягледзячы на сваю сённяшнюю гандлёва-камерцыйную накіраванасць, застаецца ўсё ж па-сапраўднаму тэатральным. Калі коратка пра гісторыю фестываляў, то атрымаецца так: краіны Балтыі (у іх ліку і Беларусь) штогод на тэатральных спатканнях дэманструюць лепшыя на дадзены момант свае тэатры і спектаклі. Зразумела, такі падыход – "сябе паказаць, на іншых пагледзець" – надае яшчэ адну, "падтэкставую", задачу фестывалю: нараджэнне і замацаванне трывалых тэатральных сувязей паміж краінамі-суседкамі.

На жаль, аўтару гэтых радкоў не давялося ўспрыняць "Балтыйскую вясну" цалкам. Як не давялося адчуць яе і самім акцёрам: сапраўды кажуць, не ў грошах шчасце, а ў іх наяўнасці і колькасці. Аднак нават пры складаных фінансавых умовах фестываль жыве, а і на спектаклі пытаюцца яшчэ "лішні білецік", а значыць, гэта патрэбна.

...Спектакль маладзёжнага тэатра Латвіі з Рыгі аніякіх дыпломаў не атрымаў. Іх "Дэмакратыя" па І.Бродскаму, магчыма, сёння ўжо "ераспела" і ні для каго не адкрыццё. І ўсё ж прыемна было і артыстам, і галоўнаму рэжысёру тэатра А.Шапіру пад гучныя апладысменты залы некалькі разоў удзячна развітвацца з гродзенцамі. Дарэчы, апошнія на падзяку і кветкі былі шчырыя для ўсіх.

Прыемным падарункам гледачам стаў і тэатр імя В.Хожыцы з польскага горада Торунь, які прывёз спектакль па п'есе Тадэвуша Ружэвіча "Белы шлюб". Запамінальнымі засталіся для гродзенцаў фіны з добравядомым усім "Шкляным звярынцам" Т.Ульямса. Беларусь на гэты год прадстаўляў Рускі драматычны тэатр імя М.Горкага (Д.Меражкоўскі. "Хрыстос і Антыхрыст") і тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі (М.Арахоўскі. "Ку-ку").

"Фарсы, альбо новыя сярэдневяковыя французскія анекдоты" прывозілі артысты дзяржаўнага драматычнага тэатра на Ліцейным з Санкт-Пецярбурга. Тэатр "Эндла" з эстонскага Пярну сваім выдатным спектаклем па п'есе П.Валака і П.Педаяса "Ганчарня Эп Піларпарт з Пуньяба" "вымусіў" крытыкаў прызнаць яго ўладальнікам Дыплома першай ступені, а артыстку, занятую ў галоўнай ролі,– лепшай сярод выканаўцаў-жанчын. Праўда, тут добры шанц мела і наша Ганна Маланкіна (роля Афроські ў "Хрыстосе і Антыхрысце"). А разам з эстонцамі такі ж самы Дыплом дастаўся і гасцям з Германіі – тэатру Крэатур з Берліна (Шульц. "Карычная крамка"). "Абсурд – гэта самы сапраўдны рэалізм" – ва ўсякім выпадку нямецкія артысты, як мне падалося, спрабавалі гледача ў гэтым пераканаць, паказваючы, што ўсё навакольнае бязладдзе, жудаснае і хворае, толькі ад нашай унутранай пустоты. Другі нямецкі тэатр, з Мангейма, быццам працягваючы гэтую тэму сваёй і Ж.К.Кар'ера "Канферэнцыяй птушак", падвёў да такой высновы: "Самы вялікі і магутны бог (цар, уладар) ты сам і твая воля, розум, здольнасці". За выдатнае пластычнае рашэнне гэты спектакль быў адзначаны прэміяй. Яшчэ адну прэмію – за ўдалую музыкальную афарбоўку – павёз у Літву дзяржаўны акадэмічны тэатр драмы з Каўнаса (Ф.Баерс. "Боскае ягня").

Што тычыцца "нашых", то два дыпломы ў Мінск трапілі – Аляксея Шадзько "За лепшую мужчынскую ролю" (царэвіч Аляксей у "Хрыстосе і Антыхрысце") і Уладзіміра Кін-Камінскага "За лепшае выкананне эпізадычнай ролі".

Фестываль скончаны. І чарговае свята тэатра краін Балтыі ўжо праз год. Але нейкімі не зусім святочнымі паказаліся мне думкі галоўнага рэжысёра Рускага драматычнага тэатра імя Горкага Барыса Луцэнкі. Але вельмі слушнымі:

– Не сакрэт, што цяпер тэатральнае мастацтва перажывае крызіс. І такія фестывалі неабходны, бо яны з'яўляюцца своеасаблівай "падпиткой", няхай нават штучнай. Здаецца, дзеля чаго ўвогуле глядач ідзе ў тэатр? Каб толькі пагладзець? Ну, вось ён пагледзеў – яму спектакль ці спадабаўся ці не. А далей? Яму, гледачу, трэба яшчэ нешта сказаць. І вось гэтую якасць чалавека мы часам забываем. Чаму сёння душы людзей заваёўвае рэлігія? Таму, што яна дае магчымасць выказацца. А тэатр? Крытэрый поспеху спектакля – многа ці мала апладзіруе зала, добрую ці не вельмі рэцэнзію піша крытык. А вынік пры такім падыходзе адзін: глядач раўнадушны да тэатра, а тэатр – да яго.

І фестываль, мне здаецца, створаны не зусім зацікаўлена. Прайшоў спектакль, глядач папляскаў, разышоўся. А вось, напрыклад, я быў у Польшчы на фестывалі і мне такое вельмі спадабалася: заканчваецца спектакль, акцёры пераапранаюцца, пасля чаго адбываецца сустрэча з гледачом у невялікім утульным памяшканні, дзе ёсць магчымасць выпіць шклянку кавы, задаць пытанні рэжысёру, акцёрам, драматургу, увогуле выказацца. Вось толькі тады атрымаецца працэс уздзеяння тэатра на гледача і наадварот. І магчыма, гэта адзін са шляхоў паляпшэння дзейнасці тэатраў, а фестываль ставіць сабе ў першую чаргу такую мэту...

**Майя ШЭНДРЫК,**
аглядальнік "ЧЗ"
па пытаннях культуры.



**НА ЗДЫМКАХ:**

- Гродзенскі абласны драматычны тэатр, на сцэнах якога ладзілі свае спектаклі тэатры краін-удзельніц.
- Тэатр Крэатур з Германіі. Шульц. "Карычная крамка".
- Шчыра віталі гледачы гасцей з Польшчы, якія прапанавалі "Белы шлюб" Т.Ружэвіча.

Фота аўтара.





*Святлана Алексіевіч*

# ЗАЧАРАВАНЫЯ СМЕРЦЮ

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 16–19).

Расказвае мама 14-гадовага самазабойцы Ігара Паглазава.

Перабірала ў памяці кожны кавалачак ягонага жыцця, кожны аркушык паперы, пакінуты ім. Як ён мог палюбіць смерць? За што ён яе палюбіў? Ён жа мяне любіў. Бягу па слядах... Працягваю жыць, але не наперад, а назад...

Дома мы часта фантазіравалі, сачынялі гісторыі, дзе праўда перапляталася з выдумкай. Маленькі ён пераблытаў жыццё і казку. Чакаў Дзеда Мароза, пытаўся, на якім аўтобусе можна паехаць у трыдзевятае царства, у трыдзесятую дзяржаву, бачыў у вёсцы рускую печку, усю ноч чакаў, што яна пойдзе-паедзе...

Першы клас... Іду па яго, каб забраць пасля школы. Чую крык:

— Малпа, шымпанзэ! Сапраўдная малпа!

Сэрца ўпала: Ігар. Так, гэта ён, скокнуў са школьнага ганка і з разбегу ўскараскаўся на дрэва. Я моўчкі слухала, як настаўніца адчытвала нас абаіх, а пра сябе думала: "Не малпа, а вавёрачка".

Зноў выклікаюць у школу: сын надзьмуў шарык, а ён лопнуў на ўроку...

Мне падабаецца прыгадваць яго дзяцінства. Нібыта я яму расказваю... Ён жа любіў...

Яны з таварышам дужаліся на перапынку. У азарце не заўважылі, як разбілі акно. Іх тут жа вылавілі:

— Хто разбіў акно?

Быццам бы не зразумела, што іх двое.

Таварыш маўчыць. Ігар адказвае:

— Я.

Дома пытаюся ў яго:

— Але вы ж былі ўдвух?

— Мама, я табе ўсё магу растлумачыць. А яго дома пакараюць. Ну добра, устаўляем шыбы.

Неяк званок у дзверы. Стаіць бледны. Яго калоціць. Побач жанчына:

— Ваш хлопчык выскачыў са школьнага двара на дарогу. Ледзь не трапіў пад аўтобус. Я ледзь паспела яго падхапіць.

Ігар трымаецца за галаву:

— Сярожка памірае! Гэта я яго забіў! Я забіў Сярожку!

Як? Што? Немагчыма нічога дабіцца, паўтарае адно і тое ж: "З-за мяне памрэ Сярожка! Я яго забіў!"

У школу прыйшла маці Сярожы і расказала, што яе сын дужаўся з Ігарам, а ў Сярожы была ў кішэні лінейка, і ён на яе накалоўся. Сярожу з абсцэсам забралі ў бальніцу. Ігара выклікалі ў настаўніцкую, і там ён даведаўся, што Сярожа з-за яго памірае, а для такіх, як ён, ёсць спецыяльныя дзіцячыя ўстановы. Ён не вытрымаў, выскачыў з настаўніцкай, пабег у туалет і зачыніўся. За ім кінуліся, трэслі дзверы, ён з усіх сіл трымаў ручку, але не вытрымаў кручок.

— Марш у клас!

Ён вярнуўся ў клас. За ім увайшла класная кіраўніца і паведаміла:

— Рабяты! Заняткі адмяняюцца. У нас ЧП. Памірае Сярожа. Гэта Ігар яго забіў. Вы павінны сёння ж выключыць яго з піянераў.

Яна паставіла Ігара перад класам:

— Гаварыце яму ўсе ў твар, што вы пра яго думаеце.

Клас дружна заявіў:

— Не выключым. Ігар — добры таварыш.

Вось пасля гэтага ён і выскачыў на дарогу, пад аўтобус.

Я села за медыцынскі слоўнік, чытаю пра абсцэс. Поўная няўвязка, лухта, бязглуздзіца! Бабуля наша паехала ў бальніцу, дзе ляжаў Сярожа. Там высветлілася, што ў Сярожы моцная прастуда, але паміраць ён не збіраецца.

Ох, як нам даўся гэты абсцэс!

Мы ўсе чакалі лета. Любімы месяц — жнівень. Паехалі ў лес: я бягу паміж дрэваў і ныраю тварам у павуцінне. Яно захутвае маю галаву бязважкай чалмой. Потым я адшукаю сябе ў ягоных вершах... Як дзяўчынка падае на павуцінне... Мамачка-дзяўчынка...

Як ён насіў у сабе гэтую думку пра смерць? Калі яна ў ім пасялілася? Я не знаходжу адказу...

Чацвёрты клас... Пачатак зімы. Ужо вечар на дварэ. Улятае Ігарок:

— Мама! Я сёння цалаваўся!

— Цалаваўся?

— Так. У мяне сёння было спатканне. Дзяўчынка мне даслала запіску, запрасіла на спатканне.

— І ты мне нічога не сказаў?

— Не паспеў. Сказаў Дзімку і Андрэю, і мы пайшлі ўтрох.

— Ці ж на спатканне ходзяць утрох?

— Ай, я адзін неяк не рашыўся.

— Ну, і як вы ўтрох былі на спатканні?

— Вельмі добра. Мы з ёй хадзілі вакол горкі пад ручку і цалаваліся. А Дзімка і Андрэй стаялі на варце.

О, Божа! Яшчэ год таму ён у мяне выпытваў:

— Мама, а можа другакласнік ажаніцца з дзевяцікласніцай? Калі вырасце, канешне.

Так жа неспадзявана з'явіліся ў яго вершы:

Лишь на веточке обшарпаной
Капли звездные накапаны...

Смажу-пару на кухні. Акно адчынена, чую, як яны з бацькам размаўляюць.

Ігар:

— Тата, ты толькі паслухай... Жылі-былі дзед і баба, і была ў іх курачка Раба. Знесла курачка Яечка, ды не простае, а залатое. Дзед біў, біў — не разбіў, Баба біла, біла — не разбіла. Мышка бегла, хвосцікам махнула, яечка ўпала і разбілася. Плача дзед, плача баба...

Бацька:

— З пункту гледжання логікі — абсалютны абсурд. Білі, білі — не разбілі, а потым раптам — у плач! Але колькі гадоў, ды што там гадоў, стагоддзяў казку гэтую дзеці слухаюць, як вершы.

Ігар:

— Я спачатку падумаў, што гэта можна рашыць, як задачку. А тут цуд тайны...

На стале, у ягоных кішэнях, пад канапай я знаходзіла аркушыкі з вершамі. Ён іх губляў, кідаў, забываўся. Я нават не заўсёды верыла, што яны ягоныя:

— Няўжо гэта ты напісаў?

— А што там?

Чытаю:

Ходят в гости друг к другу люди,
Ходят в гости друг к другу звери...

— Ну, гэта старое. Я ўжо забыўся.

— А гэтыя радкі?

— Якія?

Чытаю:

Кто-то умер. Мне музыка слышится.
Под окном не меня ли несут?
Не моя ль голова колышется
По дороге на Страшный суд?
Не меня ли руками трогают?
Ниспадая по двум щекам,
Две слезы... Кто там в небе вороном?
Уж не я ли сам?

Слухае. Маўчыць.

— Сынок, ты такі радасны, такі прыгожы. Чаму ты пра смерць пішаш?

Паціскае плячыма. Ён сам не мог растлумачыць, адкуль у яго гэтыя словы. Гэты смутак.

Потым знайшла ў Пастарнака... Ён рэкамендаваў маладому паэту пазбягаць пісаць аб сваёй смерці. Як толькі з'явяцца першыя матывы — бойцеся іх. Кожны напісаны радок рэалізуецца...

Я не ваш, облака серебристые,
Я не ваш, голубые снега...

Я нічога не падазравала, я, хто ўсё жыццё выкладаў літаратуру, не адчувала ніякай небяспекі. Вершы ў нашым доме гучалі пастаянна, як мова: Ясенін, Пастарнак, Лорка, Мандэльштам... Але вы ніколі не заўважалі, што мастацтва любіць смерць? Я таксама гэтага раней не заўважала... Мастацтва любіць смерць, але існуе французская камедыя... Праўда? Чаму ж у нас амаль няма камедыі? Ведаеце, нам нецікава, сумна проста жыць, радавацца жыццю. Мы любім боль, любім назіраць смерць... Са сладастраснасцю, з нейкай генетычнай гатоўнасцю мы ідзём на ахвяры, на нягоды... Смерць героя, мучаніка — вось наш ідэал. Хрысціянскі, рускі, савецкі... Нам унушалі, што гітара з бантам на сцяне — мяшчанства, калі агонь, то агонь не дома, ля каміна,' а ля кастра ці вогнішча — піянерскага ці ў чыстым полі, там, "где, знаю, город будет, где, знаю, саду цвесть". У баі, у палёце... Яна ў нашым мастацтве больш цудоўная, чым жыццё... Памятаеце, у Міхаіла Святлова:

Отряд не заметил потери бойца
И "Яблочко" песню допел до конца...

І вось аднойчы... Пачынаецца містыка, але ўсё было так. Я ўжо ў ложку, дачытваю раман "Майстар і Маргарыта" М.Булгакава. Усе ў доме ўжо прачыталі кнігу, акрамя мяне. Даходжу да апошніх старонак... Памятаеце, Маргарыта просіць адпусціць Майстра, а Воланд, дух Сатаны, гаворыць: "Не трэба крычаць у гарах, ён усё роўна прывык да абвалаў, і гэта яго не ўстрывожыць. Вам не трэба прасіць за яго, Маргарыта, таму што за яго папрасіў ужо той, з кім ён так імкнецца размаўляць...".

Нейкая незразумелая сіла кінула мяне да канапы, дзе спаў сын. Я кінулася на калені і шаптала, як малітву:

— Ігарок, не трэба. Міленькі мой, не трэба. — Пачала рабіць тое, што мне ўжо было забаронена, як толькі ён вырас: цалаваць ягоныя рукі, ногі. Ён расплюшчыў вочы:

— Мама, ты што?

Абсалютна спакойным голасам я яму адказала:

— З цябе спаўзла коўдра. Я папраўіла.

Ён тут жа заснуў. Я пайшла ў другі пакой і таксама заснула. Раніцай трэба было бегчы ў інстытут. Што адбылося са мной, я проста не зразумела. Вясёлы, ён дражніў мяне "агнявушка-паскакушка". Як лёгка я бегла па жыцці... З якім лёгкім сэрцам...

Мы с тобой повенчаны
голубой водой...

Адкуль ён гэта ведаў? У чатырнаццаць гадоў... Набліжаўся ягоны дзень нараджэння і Новы год. Я паабяцала купіць бутэльку шампанскага...

Не, я не хачу заканчваць свой расказ так хутка. У нас было цэлых чатырнаццаць гадоў шчасця... Чатырнаццаць гадоў без дзесяці дзён...

Неяк чысціла антрэсолі і знайшла там папку з лістамі. Гэта, калі я ляжала ў раддоме, чакала Ігарка (ну, тады мы яшчэ не ведалі — хлопчык ці дзяўчынка будзе), мы з мужам не бачыліся і кожны дзень пісалі адзін аднаму лісты, запісачкі, а то і некалькі разоў у дзень. Чытала, смяялася, а Ігар слухаў і быў неўпапад сур'ёзны. Як гэта яго не было, а мы з бацькам былі? Ён як бы быў, мы ў пісьмах гаварылі аб ім: вось ён павярнуўся, вось ён мяне пхнуў, вось ён варушыцца... І ён і не ён... Аднойчы ён толькі ўсміхнуўся, калі я ў сцэнах паказвала, як мы "сварыліся" — я настойвала на імені "Глеб", а імя "Ігар" — гэта фантазія бацькі. "Канешне, Глеб — лепей", — сказаў ён сярдзіта.

— Але ты ў мяне не жэнішся ні з першым каханнем, ні з прадаўшчыцай! — гразіла я.

У мяне два страшныя сны... Адзін, як мы з ім топімся... Ён жа добра плаваў, аднойчы я рызыкнула паплыць разам з ім далёка ў мора. Павярнулі назад, адчуваю, сіл не хопіць — ухапілася за яго, ды мёртвай хваткай. Ён крычыць: "Адпусці!". А я крычу: "Не магу!". Учапілася, да дна яго цягну. Ён усё-такі адарваўся і пачаў мяне падпіхваць да берага... Падтрымлівае і падпіхвае... Так мы з ім і выплылі.

А ў сне я яго не адпускаю... Мы і не топімся, і не выплываем... Ідзе такая схватка ў вадзе...

Другі сон... Пачынаецца дождж, але я адчуваю, што гэта не дождж, а зямля сыплецца. Пясок. Пачынае валіць снег, але я ўжо па шоргату чую, што гэта не снег, а зямля... Пясок. Лапата стукае, як сэрца: шох-шох, шох-шох...

Зноў мяне да канца цягне... Да краю... Не хачу! Не хачу!

Іду па ягоных слядах-слядочках тысячу разоў, і не знаходжу адказу.

О, мне со дна дано увидеть больше,
Чем с высоты. Я вижу звезды днём,
И запах трав слышней на дне колодца,
И звуки все куда нежнее в нем.

Я шмат думаю пра смерць, але не хачу сябе забіць. А як ён там? Што там?

Ён любіў мора. Рэчку. Студні. Ён любіў усё, дзе жыла вада, яна яго зачароўвала: "Глядзіш у ваду, а там цемра". Або: "Только тихая звезда побелела, как вода. Темнота". Яшчэ: "И вода течет одна... Тишина".

Пасля смерці настаўніца рускай мовы і літаратуры сказала: "Што вы хочаце, хлопчык з дзяцінства выхоўваўся на Мандэльштаме і Пастарнаку. Я неаднойчы гаварыла, што яго трэба паказаць спецыялісту". І тут я падыходжу да самага страшнага месца... Як толькі я на яго натыкаюся — хутка адыходжу, адбягаю ўбок або іду-іду, а перад гэтым момантам спыняюся, як укапаная. Не, я не маю рацыі, а, можа, і маю. Не, канешне, я маю рацыю. Гэта самая страшная думка, якая ў мяне была. Усё-такі адважуся... Вымаўлю... Упершыню вымаўляю яе ўголас, раптам я ад яе такім чынам вызвалюся. У мяне няма іншага спосабу выкінуць яе з душы, акрамя як рашыцца вымавіць... Выцягнуць з сябе...

Кожны год я рыхтавала новы рэферат. У нас так заведзена на кафедры. Канешне, уся сям'я захаплялася ідэяй, якой жыла я ў гэтыя месяцы. Я чытала за вячэрай свае выпіскі, вершы, любімыя цытаты, мы іх абмяркоўвалі разам. "Паэты, жыццё аддаўшыя народу, у народзе застаюцца назаўсёды", — так называлася мая новая тэма. Гэта была цудоўная тэма, я сама, калі ў інстытуце абмяркоўвалі план, выбрала яе. Хто ёсць паэт? Які ў яго непазбежны лёс у Расіі? Лёс памерці... У сувязі з гэтым мы шмат дома гаварылі пра смерць, пра радзіму. З мяне, як з каляднага мяшка, сыпалася і сыпалася... Цытаты аб жабрацкай дарагой радзіме, аб тым, што маці-жабрачка даражэй за ўсё і... "Люблю Отчизну я, но странною любовью...". Паўтарала, як Блок у лісце да маці пасля прыезду з-за мяжы пісаў, што радзіма адразу паказала яму і свіны, і боскі твар. Упор, канешне, рабіўся на боскае, на тое, што трэба любіць, быць гатовым да самаахвяравання.

Лёс паэта ў нашай няшчаснай краіне можа быць толькі трагічным, паэт жа — душа яе. Не заўважыла, што чытаю гімн смерці, а не жыццю.

Што яшчэ адбывалася ў гэта апошняе лета? Ігар ездзіў у Маскву на магілу Высоцкага. Закахаўся ў дзяўчынку Наташу, а пасля нешта ў іх разладзілася. Узяў ды падстрыгся нагала, стаў вельмі падобны на Маякоўскага.

У школе два дзевяцікласнікі здзекаваліся з вучня другога класа: адзін трымаў малыша за рукі, другі метадычна біў лінейкай у лоб. Ігар убачыў, ірвануў малога да сябе:

— Спыніцеся!

— Знайшоў за каго заступацца. Ён жа яўрэй.

— А хто, па-вашаму, быў Чарлі Чаплін, Аркадзь Райкін? А Спіноза?

— Вось як? З табой цікава пагутарыць. Пайшлі ў прыбіральню.

Там адбылася бойка.

— Іх двое, яны цябе збілі?— была ўпэўнена я.

— Не, я іх раскідаў.

Ён быў вялікі і моцны. Яму давалі на выгляд васемнаццаць гадоў. Паехалі на канікулах з ім у Талін. Ён быў там у другі раз, вадзіў мяне ўсюды, па розных закутках. За тры дні мы "жахнулі" шмат грошай. Начавалі ў нейкім інтэрнаце. Вяртаемся з начнога паходу па горадзе — ён абняў мяне за плечы, смяёмся, адчыняем дзверы. Падышлі да вахцёркі — яна не пускае:

— Жанчына, пасля адзінаццаці ўваходзіць з мужчынам нельга.

І тут я Ігару на вуха:

— Падымайся, я — зараз.

Ён пайшоў, а я шэптам:

— Як вы можаце! Як вам не сорамна! Гэта ж мой сын!

...И не дано вам видеть...
Как я скрываюсь в белой пелене,
И одеваюсь в сумерки скупые,
И исчезаю в темно-синем сне.

Я хацела, каб ён стаў урачом... Яшчэ нічога не адбылося, ніякага намёку, а на мяне раптам навальваліся прыступы нямога адчаю: "Не хачу, каб ён быў паэтам! Не хачу!" А ён пісаў і пісаў вершы...

И ночь зеленая таинственно отходит,
И место сада занимает день.

...У мяне памёр брат. Нехаця атрымлівалася, што сын назіраў смерць зблізку. Глядзеў на яе, прывыкаў. У паэзіі, у кіно — смерць прыгожая, на хаду, на ляту... Трупа няма, труп мы не бачым... Як яго мыюць, апранаюць... Як на другі дзень ужо з'яўляецца пах... Нічога гэтага ў мастацтве няма. Пасля таго, як ужо было позна баяцца, у мяне ўзнік страх, што ён назіраў за смерцю, вельмі доўга ля яе знаходзіўся: "Ігар, перастаў кветкі... Прынясі крэслы... Схадзі па хлеб..." Вось гэтая звычайнасць таго, што адбываецца побач са смерцю, магла падзейнічаць на яго нечаканым чынам. Тут усё магло злучыцца: і жаданне перажыць тое, аб чым хацеў напісаць, непасільныя вар'яцкія пытанні: навошта, куды?

Прыехаў аўтобус. Усе родныя селі — майго сына няма.

— Ігар, дзе ты? Ідзі сюды.

Уваходзіць, усе месцы занятыя.

"Ці то ад штуршка, ці то... Аўтобус крануўся, і брат на імгненне расплюшчыў вочы. Дрэнная прыкмета — у сям'і будзе яшчэ адна смерць. Я думала... мая мама, баялася за яе сэрца... Пачалі апускаць труну ў яму, нешта ўпала туды, я скокнула ў гліну, дастаю. Ніхто ў яму не скача... Дрэнная прыкмета... На памінках, усе селі, усім крэслаў хапіла, і зноў за гэтым сталом Ігару месца няма...

Калі б можна было павярнуць назад... Я не дала б яму глядзець на смерць... Углядвацца...

...А цяпер па гадзінах... Чатырнаццатага снежня... Раніцай... Я ўмывалася, адчуваю: стаіць у праёме дзвярэй, трымаючыся дзвюма рукамі за вушак, і пільным поглядам абводзіць ванную, потым — мые рукі, твар...

— Што з табой? Кудысьці хочаш пайсці? Тады зрабі з раніцы ўрокі. Я хутка вярнуся.

Моўчкі адвярнуўся і знік у сваім пакоі.

Я пайшла да сяброўкі. Яна дастала для яго французскую кашулю. Мне хацелася зрабіць яму падарунак на дзень нараджэння. Прынесла дадому, муж паўшчуваў: "Няўжо ты не разумееш, што пакуль нельга, каб ён насіў такія дарагія рэчы". Але ў яго не было ніводнай новай кашулі...

На абед падала яго любімыя пельмені. Звычайна талерку з дабаўкай просіць, а тут пакляваў — і кінуў.

— Што-небудзь у школе здарылася?

Маўчыць. Тут я заплакала, у мяне чамусьці градам пакаціліся слёзы. Сама спалохалася — я плакала ўпершыню за шмат гадоў. На пахаванні брата вочы былі сухія, а тут — ручаі. І ён спалохаўся.

— Прымер кашулю.

Апрануў.

— Падабаецца?

— Вельмі.

Зазірнула праз некаторы час да яго ў пакой: ён чытаў Пушкіна. У другім пакоі бацька друкаваў на машынцы. У мяне балела галава — і я заснула. Калі пажар — людзі спяць мацней, чым звычайна... Калі бяда... Я пакінула яго за сталом... Цімка, наш сабачка, лаяў у прыхожай. Не забрахаў, не заскавытаў...

Не памятаю, колькі часу мінула, расплюшчваю вочы: ля мяне сядзіць муж.

— А Ігар дзе?

— У прыбіральні. Зачыніўся. Напэўна, вершы мармыча, ужо каля гадзіны.

Зусім дзікі страх падкінуў мяне ўверх. Падбягаю, стукаю, б'ю ў дзверы. Рукамі, нагамі. Цішыня. Клічу, крычу, малю. Цішыня. Муж шукае малаток, сякеру. Выломвае дзверы... У старэнькіх штанах, світэры, хатніх тапачках... На нейкім рамяні... Схапіла, панесла... Мяккі, цёплы... Пачалі рабіць штучнае дыханне... Выклікалі "хуткую дапамогу"...

Як жа я спала? Чаму Цімка не пачуў? Сабакі такія чуйныя... Я сядзела і глядзела ў адну кропку... Як вар'ятка... Мне зрабілі ўкол — і я некуды праваліліся... Раніцай пабудзілі:..

— Вера, уставай. Потым сабе не даруеш.

"Ну, зараз я табе ўсыплю, ты ў мяне атрымаеш",— падумала я, і тут да мяне даходзіць, што ўсыпаць няма каму.

Ён ляжаў... Усё знаёмае, роднае — твар, вусны, рукі... Я дакранулася да яго, і ён датыкаўся да мяне... Яшчэ адзін дзень мы былі разам...

Я прощаю тебя, поле,
Я прощаю тебя, озеро,
Я прощаю тебя, Родина...

"Зачыняю дзверы, якія не адчыніў"...—- так потым назвалі кнігу яго вершаў.

Не ўтрымаць... Не спыніць... Не падштурхнуць да берага...

—Я не ведала, куды мне бегчы. У царкве малілася, але баялася прызнацца, што ён скончыў самагубствам. Ходзіш і на неба глядзіш... На неба... На неба... На неба... Крычаць пачала не адразу, праз некалькі месяцаў. Але слёз не было. Крычаць крычала, а не плакала. І толькі, калі аднойчы выпіла шклянку гарэлкі — заплакала. Пачала піць, каб плакаць...

Пачала чапляцца за людзей. У адных нашых сяброў мы прасядзелі, не выходзячы з кватэры, два дні. Цяпер разумею, як ім было цяжка, як мы іх мучылі. Мы ўцякалі са свайго дому. Калі ачунялі, я адчыняла дзверы ў прыбіральню, стаяла і глядзела... На тую трубу... Ад выцяжкі... На тыя сцены... Пакуль муж не адцягне... Два разы хацелі змяніць кватэру, ужо дакументы падрыхтавалі, людзей абнадзеілі, спакавалі рэчы... І не магу з кватэры выйсці, штосьці вынесці... Не для мяне гэтае выйсце — пачаць новае жыццё. Я хадзіла па магазінах, падбірала яму рэчы. Вось гэты світар — яго колер. Абутак прыглядвала, нават шкарпэткі і насоўкі.

Нейкая па ліку вясна... Якая — не памятаю. Прыходжу дадому, гавару мужу:

— Ведаеш, сёння спадабалася аднаму мужчыну.

І мой муж мне адказвае:

— Як я рады за цябе, Верачка. Ты вяртаешся...

Як я яму была ўдзячна за гэтыя словы.

Тут я хачу распавесці пра свайго мужа. Ён — фізік, сышліся вада і полымя. (Памаўчаўшы). Не, аб каханні, як і аб смерці, немагчыма расказваць. Я кахала... Чаму кахала, а не кахаю? Таму што той мяне няма... А сябе новую, выжыўшую, я не ведаю... Не разумею...

...Ноччу ляжу з расплюшчанымі вачыма. Званок. Ясна чую званок у дзверы.

Гавару мужу: Ён:

— Я нічога не чую.

Апошні раз — званок. Я не сплю, скіроўваю вочы на мужа: ён прачнуўся.

— Ту чуў?

— Чуў.

А Цімка кругамі вакол ложку бегае, кругамі, як па следу за кімсьці... Я некуды падаю, у нейкую цеплыню... І бачу такі сон...

Незразумела дзе, выходзіць да мяне Ігар у тым касцюме, у якім мы яго пахавалі.

— Мама, ты мяне клічаш і не разумееш, як мне цяжка да цябе прыйсці. Кінь плакаць.

Дакранаюся да яго, ён мяккі.

— Табе было добра дома?

— Вельмі.

— А там?

Ён не паспявае адказаць, знікае.

З той ночы я кінула плакаць, пачала гаварыць яму толькі пяшчотныя словы: "Ты — самы добры. Самы прыгожы. Самы спагадлівы".

І ён пачаў сніцца мне маленькім, толькі маленькім. І я чакаю яго вялікага, каб пагутарыць з ім, зразумець яго...

Гэта быў не сон... Я толькі заплюшчыла вочы... Дзверы ў пакой расчыніліся... Дарослым, якім я яго ніколі не бачыла, ён увайшоў на імгненне... У яго быў такі твар, што я зразумела: яму ўжо абыякава ўсё, што тут адбываецца. Нашы размовы пра яго, успаміны. Ён ужо зусім далёка ад нас.

Тады я захацела нарадзіць, вельмі прасіла дзяўчынку. Моцна хварэла, я не павінна была нарадзіць, але нарадзіла. Асеньку... У нас дзіўныя адносіны з нашай дзяўчынкай. Мы да яе ставімся, быццам яна не наша дзяўчынка, а дачка Ігара. Я толькі баюся, што не здолею яе так любіць, як яго — нічога не паўторыцца. Але цяпер, акрамя яе, у мяне нічога няма... Я так любіла літаратуру, а зараз хачу кінуць інстытут... Ува мне няма святла... Я чытаю вершы і мне здаецца, што ўсе яны пра смерць...

У Бэлы Ахмадулінай ёсць такія радкі:

Как всё хотела, и поила мёдом.
Поила мёдом, а вспоила ядом...

А, можа, ён толькі хацеў зазірнуць за край?.. Не верыў, што не вернецца?.. Як тады, калі ішоў па карнізе...

Ён толькі хацеў зазірнуць за край...

# "Кукла" ў кішэні

*Пасажырскі ішоў хутка, ненадоўга затрымліваючыся на станцыях. Тук-тук — размерана грукацелі колы. Тоненька бразгацела ў шклянцы лыжка.*

*Сяргей пачынаў ужо драмаць, калі ў купэ ўвайшоў яго спадарожнік.*

Яны з Сяргеем былі цёзкі і сябравалі з дзяцінства. Спачатку на гэта не звярталі ўвагі, потым пачалі глядзець са здзіўленнем. Як могуць сябраваць такія розныя падлеткі? Выдатнік, спартсмен, актывіст. І гэты... невук, падшыванец з такой дрэннай сям'і. Паляраджвалі, каб ён кінуў гэта сяброўства, маўляў, да дабра яно не давядзе, і ніхто не здагадваўся, ніхто нават уявіць сабе не мог, што менавіта ён, выдатнік, быў стрыжанем гэтай дружбы. Ён заўсёды верхаводзіў у іх дзіцячых гульнях, падлеткам любіў розныя небяспечныя прыгоды, гэта было як аддушына ў прыкладным жыцці выдатніка-актывіста. Але ў самых рызыкоўных сваіх мерапрыемствах ён заўсёды ведаў меру, тую мяжу, якую нельга пераступаць.

У дзесятым класе ён сказаў сабе: хопіць, і былыя сябры дарэмна клікалі яго вярнуцца. Сяргей ішоў "на медаль", атрымаўшы яго, упэўнена здаў экзамены і паступіў у лётнае вучылішча. Ён ведаў, што мог бы паехаць у Маскву, і адзін з інстытутаў абавязкова залічыў бы яго да сябе ў студэнты. Але ў сям'і існаваў непарушны "кодэкс гонару": мужчына іх роду павінен быць ваенным. Лётчыкам стаў яго бацька, дагэтуль беражэ парадны мундзір дзед. Словы "як салдат" былі самай лепшай пахвалой з дзяцінства, таму што ён моцны, дужы і вельмі прыгожы ў форме.

Жыццё курсанта спадабалася не адразу: муштра, строгая дысцыпліна, неабходнасць падпарадкоўвацца непрыемна ўразілі. Але Сяргей цвёрда вырашыў: вытрымае і яшчэ пакажа сябе!

На перапынках і ў курылках хлопцы любілі абмяркоўваць свае перамогі "на жаночым фронце". Сяргея чамусьці лічылі "асам" у гэтай справе, але ён зусім не ведаў дзяўчат і заўсёды з цікавасцю слухаў расказы іншых. Па выхадных курсанты хадзілі ў Дом афіцэраў, там і адбылася адначы тая сустрэча. Дзяўчыну звалі Наташай, яна мела каштанавыя валасы і цёмна-блакітныя вочы. Яна быццам гуляла з ім, і Сяргею гэта спадабалася. Ён лічыў, што жанчына павінна быць свабоднай у выбары і ў жыцці, таксама, як і мужчына. І яна лічыла гэтак жа. Ім было добра разам, і ён вельмі здзівіўся, убачыўшы аднойчы Наташу ў аўтамабілі з незнаёмым хлопцам. Потым Сяргей даведаўся, што гэта вядомы фарцоўшчык і спекулянт, ён гандлюе імпартнымі рэчамі, якія прывозіць аднекуль партнымі. З Наташай ён сябруе даўно, часта дорыць ёй розныя "дробязі" накшталт французскіх духоў або чэшскай біжутэрыі, а парадны мундзір яму з ліхвой замяніў новенькі "жыгулёнак".

Сяргей пакрыўдзіўся. Гэта быў першы замах на яго годнасць, яго ідэал, яго жыццёвы стрыжань. Спачатку ён наогул не мог глядзець на дзяўчат, потым супакоіўся, але міфу аб "свабодным каханні" настаў канец. Сяргей усё часцей заўважаў, што не толькі "розныя цывільныя", але і яго паплечнікі, курсанты, усё больш уважліва ставяцца да матэрыяльнага боку жыцця. У элітным вучылішчы, дзе на браме былі выведзены "гонар" і "кар'ера", пасяліўся прывід залатога цяльца. Старшакурснікі не грэбавалі знаёмствам з "фарцой".

Сяргей шмат думаў пра гэта. Ён падсвядома адчуваў, як усё больш цьмяным становіцца арэол вакол вобраза афіцэра. "Паганыя гандляры! Нажываюцца за наш кошт. Прахадзімцы!" Гэта былі знявага і зайздрасць. Але разам з імі у душы гняздзілася і нешта іншае: жаданне праверыць сябе ў новай якасці. Два гэтыя пачуцці змагаліся ў душы, пакуль Сяргей не зразумеў, што месца там ёсць толькі для аднаго з іх.

Даўні сябра прапанаваў разам зрабіць падарожжа ў Беларусь:

– Свет пабачым, купім "варонкі", ты сабе даўно хацеў скураную куртку, а там яны больш танныя.

І вось ужо ззаду засталіся тысячы кіламетраў, у кішэні ляжалі чатыры тысячы рублёў, атрыманых ад дзеда "на дробныя расходы".

Дружбакі спыніліся на кватэры Сяргеевай цёткі ў Бярозе. І першае, што зрабілі – наведалі мясцовы рынак. Потым пабывалі ў Брэсце, прыцэньваліся. Там ім і падказалі, што ў базарны дзень варта пабываць на Кобрынскім рынку.

Да базару хлопцы рыхтаваліся па-свойму. Самі "куклу" майстраваць не сталі, купілі ў "прафесіянала". На выгляд фальшывы пачак дваццацьпятак нельга было адрозніць ад сапраўднага.

На рынку трохі патаўкліся, купілі сабе тое-сёе з рэчаў, калі Сяргей прыкмеціў скураную куртку. Яе прадавалі мужчына і жанчына. Падышлі, спыталі цану. Яна была сходная. Адышоўшы ў бок, сябры раіліся. Няпроста было выканаць задуманае, яшчэ цяжэй – набрацца рашучасці.

Хлопцы зноў падышлі да прылаўка, і адзін з іх зайшоў памераць куртку. Модная, са "шматкоў", яна яўна яму падабалася.

– Бяру!

Таварыш пачаў адлічваць грошы. Сто дваццацьпятак. Пакуль жанчына іх пералічвала, Сяргей быццам завагаўся: браць, не браць. Не, не буду! Сябра сабраў грошы, перацягнуў іх чорнай гумкай і схаваў у кішэню. Яны сталі тут жа і спрачаліся, калі падышоў незнаёмы мужчына.

– Колькі за куртку? Можна прымераць?

Адзін з Сяргеяў адразу выгукнуў:

– Гэта куртка прададзена! Я яе бяру!

Рука дастала з кішэні пачак, сцягнуты чорнай гумкай, і кінула яго побач з курткай. Потым хлопец схапіў скураную рэч і хутка пакрочыў ад прылаўка. "Бяжым!" – паспеў падштурхнуць свайго сябра.

– Пачакайце, я яшчэ не палічыла грошы! – паспрабавала затрымаць іх жанчына і, адчуўшы нядобрае, уголас закрычала:– Трымайце іх! Трымайце!

З-за прылаўка выскачылі суседзі, пачуўся міліцэйскі свісток. Зразумеўшы, што справы іх кепскія, хлопцы кінулі няшчасную куртку, але гэта не дапамагло. Хлопцаў злавілі, скруцілі, і хутка яны ўжо сядзелі ў невялікім пакойчыку райаддзела.

Усю ноч Сяргей пакутліва ўспамінаў тып таго самалёта, які ён краем вока ўбачыў праз акно ў кабінеце следчага. Ён жа лепш за ўсіх умеў вызначаць іх у вучылішчы. Пры думцы аб вучылішчы ён да болю сціснуў зубы. Сяргей разумеў, што жыццё яго ў тую нядзельную раніцу раздзялілася на дзве няроўныя часткі: да суда і пасля яго. Паміж імі – глухая сцяна турмы з маленькім узятым у краты акенцам зверху. Праз яго можна толькі кінуць позірк на былое жыццё, але вярнуцца туды нельга. Шлях у вучылішча яму, зразумела, зачынены, які бы ні было рашэнне суда. Але няўжо жыццё зламалася канчаткова? Так, яны зрабілі замах на чужое дабро, маёмасць, на чужую годнасць. Але ці толькі яны адны? Колькі разоў кожнага з іх паасобку і ўсіх разам падманвала дзяржава і ўсялякія дзялкі-камерсанты? Чаму ніхто з іх ніколі не апынецца на яго месцы, а ён, здольны, разумны... Не, напэўна, ёсць сэнс пазмагацца дзеля сваёй будучыні. І вось тут рашэнне суда можа значыць вельмі многа. Як добра, што ён ні ў чым не прызнаваўся з самага пачатку! Вось толькі сябра... Ён папінен Сяргею дапамагчы. Яшчэ трэба выклікаць дзеда, ды не з пустымі рукамі. Ён выйдзе чыстым, абавязкова выйдзе! Няхай сядзіць слабейшы, а ён заўсёды быў моцным.

Цікавае сведчанне падшыў потым следчы ў справу –запіску, перахопленую работнікамі ізалятара: "Дзед, тэрмінова прыязджай. Вазьмі ўсё, што трэба. Пагавары з адвакатам і з маім саўдзельнікам».

На судзе нечакана для ўсіх адзін з падсудзімых змяніў свае паказанні. Насуперак ранейшым, ён сцвярджаў, што зрабіў "куклу" сам. Што ён дзейнічаў у адзіночку і што яго сябра нічога не ведаў пра гэта.

Сяргей перамог. Ён ведаў гэта і ўжо не хваляваўся. За ўсё пасяджэнне ні адзін мускул не здрыжаў на яго твары. Яго не асудзяць, і ўсё мінулае можна забыць як кашмарны сон.

* * *

*Праз некалькі тыдняў абласны суд адмяніў рашэнне раённага і вынес прыгавор абодвум удзельнікам злачынства.*

Н.ВАСЮК.

Фота С.Брушко.



## ІНФА-КРЫМ

### Антырэклама

"Не запірайце вашы дзверы",— спявае вядомы бард Булат Акуджава. Відаць, літаральна зразумела гэты заклік пенсіянерка з Барысава. 6 мая з яе незачыненай хаты па вуліцы Камсамольскай выкрадзены вырабы з крышталю і залаты пярсцёнак. А 8 мая жыхар гэтага ж горада, прыйшоўшы ўвечары ў свой дом па Танкавым завулку, лёг спаць, таксама не паклапаціўшыся пра ўваходныя дзверы. А калі прачнуўся — недалічыўся магнітафона, камп'ютэра, некалькіх касет і гадзіннікаў. Тым, хто хоча апынуцца ў падобнай сітуацыі, раім ніколі не зачыняць дзверы.

### Са слязамі на вачах

сустрэў сёлетняе свята Перамогі дырэктар Іканскага музея баявой славы, што ў Барысаўскім раёне. Пры невядомых акалічнасцях з яго хаты ў Ганцавічах выкрадзена 650 рублёў.

### Выкрадзена зброя. Але не агнястрэльная

У ноч на 11 мая невядомы пранік праз разбітае акно і металічныя краты ў вагон-бытоўку філіяла ММЗ, што на тэрыторыі Стаўбцоўскага раёна. Выкрадзены будаўнічы пісталет і 500 патронаў да яго.

### Лебядзіная песня "Запарожца"

У гэтую ж ноч у вёсцы Грэск Слуцкага раёна выкрадзены "Запарожац" музычнага кіраўніка мясцовай школы. У хуткім часе міліцыя ўстанавіла, што гэта справа рук двух навучэнцаў ПТВ і дзевяцікласніка гэтай жа школы.

### Беларусь – Кітай: праблемы ўзаемаадносін

9 мая нехта пранік на тэрыторыю піянерлагера "Дружба" ў Маладзечанскім раёне і выкраў з жылога памяшкання асабістыя рэчы кітайскіх рабочых, якія працуюць у мясцовым калгасе.

### Шакаладнае злачынства

Ноччу 11 мая абрабаваны рэстаран "Світанак" у Слуцку. Знікла 207 шакаладак і 300 грамаў цукерак на агульную суму каля 10 тысяч рублёў.

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.

## 18, панядзелак

### Беларускае тэлебачанне

16.30. Навіны.
16.35. Выяўленчае мастацтва. 7-ы клас. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.
• 17.05. "Фантадром", "Фантадром-2. Соль", "Фантадром-3. Пажар", "Чорная курыца", "Крылы, ногі і хвасты".
18.00. Тэлевізійны дак.фільм.
19.00. Абласныя навіны (Брэст).
19.10. Наш каментарый.
19.25. Студыя "Мэта".
20.10. Палітычны калейдаскоп.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Студыя "Мэта".
22.20. Спартыўны тэлекур'ер.
22.40. НіКа.

### 1 канал. Астанкіна

17.00. Навіны.
17.25. Футбольны агляд.
• 17.55. Мультфільм.
◆ 18.10. "Маргарэт Бурк-Уайт".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. "Новая студыя". У перапынку (23.00) – Навіны.
24.00. Фільм-канцэрт.
◆ 0.40. "Конь, стрэльба і вольны вецер".

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.20. Час дзелавых людзей.
8.25. Італьянская мова.
8.55. Першы тайм.
9.10. Пілігрым.
9.55. Вольны час. "Аўто".
10.10. Акцыя "Пелікан" у гасцях у Тэатра сатыры.
11.10. Студыя "Нотабене".
◆ 11.50. "Санта-Барбара". 44-я серыя.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
15.15. Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
16.15. Школа менеджэраў.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. "Урал-ТБ".
17.45. Азы кар'еры.
18.00. Тварам да Расіі.
18.15. Экран крымінальных паведамленняў.
18.25. Наш сад.
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
◆ 19.30. "Санта-Барбара". 45-я серыя.
20.20. Маленькія музычныя вечары.
21.00. Пятае кола.
21.55. Рэклама.
22.00. Весткі.
22.20. Пятае кола. Працяг.
23.10. "У пошуках шчаслівага канца".

## 19, аўторак

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. Кінанарыс.
9.00. Выяўленчае мастацтва. 7-ы клас. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.
◆ 9.30. Кінанастальгія. "Брыльянтавая рука".
16.30. Навіны.
16.35. Беларуская літаратура. 9-ы клас.
17.05. Для дзяцей. Запрашаем у казку.
• 17.45. "Добрая казка".
18.00. Тэлевізійны дак.фільм.
19.00. Абласныя навіны (Віцебск).
19.10. Наш каментарый.
19.15. Эканамічная хваля.
20.15. Рэклама.
20.20. Чарнобыль: праблемы і вырашэнні.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Тэлебіржа.
◆ 21.40. "Брыльянтавая рука".
23.25. НіКа.

### 1 канал. Астанкіна

5.00. Раніца.
• 7.35. "Церамок".
8.00. Дзіцячы музычны клуб.
◆ 8.45. "Чалавек, як мора".
10.05. Прэм'ера дак.фільма.
10.30. Футбольны агляд.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.25. "Шмат галасоў – адзін свет".
11.35. Рытмічная гімнастыка.
12.05. Фермата.
12.35. Відавочнае – неверагоднае.
13.15. "Айцец Сергій". Тэлевізійны нарыс.
13.45. Прэм'ера тэлевізійнага дак.фільма.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны.

---

*Каб зэканоміць ваш час:*

◆ *мастацкія,*

• *мультыплікацыйныя фільмы.*

14.25. Аб спорце і не толькі.
◆ 14.45. "Напярэдадні". 1-я серыя "Алена".
• 16.00. "Сонны камень". 1-я і 2-я серыі.
17.00. Навіны.
17.25. Народныя мелодыі.
◆ 17.35. "Лэдзі Гамільтан".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Тэма.
21.20. Фермата.
21.50. Балетмайстар К.Галяйзоўскі.
23.00. Навіны.
23.25. Лімпапо.
23.55. Гукавая дарожка.
◆ 0.25. "Напярэдадні". 1-я серыя "Алена".

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.20. Французская мова.
7.50. Восень жыцця.
8.05. Французская мова.
8.35. Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
9.35. Наш сад.
10.05. Азы кар'еры.
10.20. Залатая шпора.
10.50. "Хто ты, Аляксей Рыбнікаў?".
◆ 11.50. "Санта-Барбара". 45-я серыя.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
15.15. Прастора плюс.
15.45. Студыя "Рост".
16.15. Дзелавая жанчына.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. "Уфа-ТБ".
• 17.30. "Кот у каўпаку".
17.45. Крымінальныя весткі.
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. "Толькі раз у жыцці бывае стрэча". Канцэрт Нані Брэгвадзе.
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
◆ 19.30. "Санта-Барбара". 46-я серыя.
20.20. Тэатральны раз'езд.
21.00. Без рэтушы.
21.55. Рэклама.
22.00. Весткі.
22.20. Рэклама.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. Вечар у Вялікай зале кансерваторыі, прысвечаны аднаўленню дыпламатычных адносін Расіі з Ізраілем.

## 20, серада

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. Кінанарыс.
9.00. Беларуская літаратура. 9-ы клас.
9.30. Студыя "Мэта".
16.30. Навіны.
• 16.35. "Асляня-агароднік", "Дзівосная бочка".
17.00. Тэлевізійныя дак.фільмы.
18.00. Дабрачынны канцэрт культурна-асветніцкага цэнтра беларускай суполкі інвалідаў па зроку. 1-е аддзяленне.
18.50. Кінанарыс.
19.00. Абласныя навіны (Гомель).
19.10. Наш каментарый.
19.15. Якія мы гаспадары?
19.35. "Ну колькі можна пра каханне?..". Канцэрт-спектакль.
• 20.10. "Вынаходка", "Тут могуць вадзіцца тыгры", "Куфэрак".
20.35. Рэклама.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.25. "Я крочу па Маскве".
22.45. НіКа.

### 1 канал. Астанкіна

5.00. Раніца.
• 7.35. "Усё кулём", "Крадзенае сонца", "Верашок".
8.20. Для дзяцей. "Далоў Агурочнага караля".
9.40. Прэм'ера тэлевізійнага дак.фільма.
10.00. Канцэрт.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.25. У свеце матораў.
11.55. Прэм'ера дак.фільма.
12.15. Пад знакам "пі".
12.55. Блакнот.
13.00. Як дабіцца поспеху.
13.15. Тэлемікст.
14.00. Навіны.
14.20. Сёння і тады.
◆ 14.45. "Напярэдадні". 2-я серыя "Інсараў".
16.00. Рок макс. "Небворт-90".
17.00. Навіны.
• 17.25. Мультфільм.
17.35. "Чорная скрыня".
18.15. Максіма.
◆ 18.45. "Тры сляпыя мышаняці".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.35. Прэм'ера эстраднага спектакля.
22.30. Турнір па армрэстлінгу.
23.00. Навіны.
23.25. Пяць плюс.
0.10. Міжнародны турнір па пляжнаму валейболу.
◆ 0.55. "Напярэдадні". 2-я серыя "Інсараў".

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.20. "Дрэздэн. Тры старонкі". Тэлефільм.
7.30. Нямецкая мова.
8.00. Вольны час.
8.15. Нямецкая мова.
8.45. Студыя "Рост".
9.15. На рагу "Праўды" і Ямскога поля.
9.30. "К-2" прадстаўляе.
11.55. Белая варона.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
15.15. Тэатральны раз'езд.
16.15. Хрысціянская праграма.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. "Далёкі Усход". Тэлеагляд.



17.45. Версія.
18.00. "Школа: учора, сёння, ніколі?".
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Тварам да Расіі.
19.45. Памяці А.Д.Сахарава. "Вялікая хартыя вольнасцей".
◆ 20.45. "Сышчык". 1-я серыя.
21.55. Рэклама.
22.00. Весткі.
22.20. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
◆ 22.50. "Сышчык". 2-я серыя.

## 21, чацвер

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Я крочу па Маскве".
10.05. Мастак Элеанора Сямёнава.
16.30. Навіны.
16.35. Выяўленчае мастацтва. 4-ы клас.
• 16.55. "Два клёны".
17.30. Для выпускнікоў школ.
18.00. Дабрачынны канцэрт культурна-асветніцкага цэнтра беларускай суполкі інвалідаў па зроку. 2-е аддзяленне.
19.00. Абласныя навіны (Гродна).
19.10. Зачытайце маё пісьмо...
19.15. "Лясная быль". Частка 1-я.
19.35. Як захаваць дзяржаўную маёмасць.
20.15. Тыдзень беларускага ўрада.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. "Крок" прадстаўляе...
23.25. НіКа.

### 1 канал. Астанкіна

5.00. Раніца.
• 7.35. "Казка пра пеўніка і прыгожую прынцэсу", "Дзень цудоўны".
8.00. Эстрадны спектакль.
9.55. Прэм'ера навукова-папулярнага фільма.
10.35. Выступае Камчацкі камерны аркестр.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.25. Спорт для ўсіх.
11.55. Дак.фільм.
12.50. Авіякасмічны салон.
13.10. Блакнот.
13.15. Тэлемікст.
14.00. Навіны.
14.20. Тэлевізійны дак.фільм.
◆ 14.50. "Хамелеон". 1-я серыя.
• 16.00. "Сонны камень". 3-я і 4-я серыі.
17.00. Навіны.
• 17.25. "Сам-насам з прыродай".
17.30. ...Да 16 і старэйшым.
◆ 18.10. "Вачамі сведкі".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Прэм'ера мастацка-публіцыстычнага фільма.
21.35. Хіт-парад "Астанкіна".
• 22.50. Мультфільм для дарослых.
23.00. Навіны.
23.25. Музыка ў эфіры. Выбранае.
0.10. Кікбоксінг. Чэмпіянат свету сярод прафесіяналаў.
1.10. Фільм-канцэрт.

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.25. Іспанская мова.
7.55. Вольны час.
8.10. Іспанская мова.
8.40. Без рэтушы.
9.35. Памяці А.Д.Сахарава.
◆ 10.35. "Джынджэр і Фрэд".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
◆ 15.15. "Дзіцячыя мары". 3-я серыя.
15.35. Шэдэўры еўрапейскай музыкі з храма святога Францыска Асізскага.
16.15. Ключ да сусветнага рынку.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. Паны-таварышы.
17.15. Расія і свет.
17.45. Экспацэнтр прадстаўляе...
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. Студыя "Нотабене".
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Спецыяльны камерцыйны веснік.
◆ 19.40. "Санта-Барбара". 47-я серыя.
20.30. Хроніка. У свеце аўта- і мотаспорту.
21.00. Пятае кола.
21.55. Рэклама.
22.00. Весткі.
22.20. Рэклама.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
23.00. Пятае кола (працяг).

## 22, пятніца

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. "Сем азёраў". Кінанарыс.
9.00. Выяўленчае мастацтва. 4-ы клас.
◆ 9.20. "Сем старых і адна дзяўчына".
16.30. Навіны.
• 16.35. "Тапчумба", "Жыла-была пчолка", "Казка пра храбрага зайца", "Дадабай і будзільнік".
17.20. Эксперыментальная ДЮСШ №18 г.Мінска.
18.00. Тэл. дак. фільмы.
19.00. Абласныя навіны (Магілёў).
19.10. Наш каментарый.
19.15. Банк і рэформа.
19.45. "Лясная быль". Частка 2-я.
20.05. Беларускі агратэхнічны універсітэт: праблемы і перспектывы развіцця.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Тэлебіржа.
◆ 21.40. "Сем старых і адна дзяўчына".
23.00. НіКа.
23.15. Паказвае Гродна.

### 1 канал. Астанкіна

5.00. Раніца.
• 7.35. "Залатая антылопа".
◆ 8.05. Фільм – дзецям. "Песні для ўнукаў".
9.05. ...Да 16 і старэйшым.
9.55. Фільм-балет.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.25. Клуб падарожнікаў.
12.15. Іграе інструментальны ансамбль "Кутох Расіі".
12.30. Навукова-папулярны фільм "Цені ў лесе".
13.15. Блакнот.
13.20. Брыдж.
13.45. Бізнес-клас.
14.00. Навіны.
14.25. "Па той бок рампы з усмешкай". К.Лучко.
◆ 14.45. "Хамелеон". 2-я серыя.
15.50. Прэм'ера дак. фільма "Газавае супольніцтва ў абноўленай Еўропе".
• 16.00. Сонны камень. 5-я і 6-я серыі.
17.00. Навіны.
17.20. Чалавек і закон.
• 18.00. "Проста нармальная дзяўчынка". "Вяселле бурага мядзведзя".
18.50. "ВІД" прадстаўляе: "Поле цудаў".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. "ВІД" прадстаўляе: У перапынку (23.00.) – Навіны.
0.15. "Ранішняя зорка" ў начным эфіры.

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.20. Час дзелавых людзей.
8.20. Англійская мова.
8.50. Вольны час. "Дамашні клуб".
9.05. Англійская мова.
9.35. Вячэрні салон.
12.15. Тэлефільм.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
15.15. Першы тайм.
15.30. Фальклор.
16.15. Прастора плюс.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. Непазнаны сусвет.
17.45. М-трэст.
18.00. Экран крымінальных паведамленняў.
18.10. Белая варона.
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Паралелі. Відэафільм пра стары Пецярбург "Развітанне".
20.00. "Артабстрэл".
20.55. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
21.25. "К-2" прадстаўляе: У перапынку – Рэклама; Весткі.

## 23, субота

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Крадзеж". 1-я серыя.
10.00. Паказвае Брэст.
11.00. Тыдзень планеты.
• 11.15. Праграма мультфільмаў.
12.00. 20 мінут рэдактара.
12.20. П.І.Чайкоўскі. Сімфонія №6 "Патэтычная".
• 13.10. "Суперкніга". 3-я серыя.
◆ 13.45. "Хто гэты чалавек".
15.15. Беларускі тэатр спорту "Кік Файтэр" паказвае: кікбоксінг, кетч, сань-да.
16.00. "Дэбюты". Саюз кампазітараў Беларусі прадстаўляе: Я.Паплаўскі і А.Ліцвіноўскі.
16.40. "Аб'ектыў-тэатр" на Балтыйскай вясне-92.
17.55. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. "Тарпеда" (Мінск) – "Металург" (Маладзечна). 2-гі тайм.
18.45. Процістаянне.
19.35. С.Пракоф'еў. "Вайна і мір".
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. Тэлебіржа.
◆ 21.40. "Баль" (Францыя – Італія).
23.25. НіКа.
23.40. Футбол-92. Вынікі тура. Чэмпіянат Беларусі. "Гомсельмаш" (Гомель) – "Дынама" (Мінск). 2-гі тайм.

### 1 канал. Астанкіна

6.30. Суботняя раніца дзелавога чалавека.
• 7.30. Бочка.
7.45. Садружнасць.
9.00. Радыё "Труба". Забаўляльная праграма.
9.30. Медыцына для цябе.
10.10. Цэнтр.
10.50. С.Рахманінаў. Рапсодыя на тэму Паганіні.
11.20. Гэта вы можаце.
12.00. Дак. фільм "Кіслотны дождж".
13.00. Пані ўдача.
14.00. Навіны (з сурдаперакладам).
14.25. Дак. фільм "Чырвоная імперыя". Фільм 7-ы "Вязні мінулага".
15.25. Кніжны двор.
16.15. Выступае Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр. Дырыжор Я.Святланаў.
16.20. Чырвоны квадрат.
◆ 17.00. "Кніга джунгляў".
18.45. Тэатр плюс ТБ (да 50-годдзя А.Калягіна).
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
◆ 20.40. "Прапаўшая без вестак".
22.30. Валейбол. Першынство сусветнай лігі. Мужчыны. Зборная Японіі – зборная СНД. Перадача з Японіі. У перапынку (23.00.) – Навіны.
23.50. Канцэрт з твораў І. Кальмана.

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.20. Крыніцы.
8.00. Баскетбольны агляд НБА.
8.30. Паралельныя сусветы.
9.15. Прызнанне ў каханні.
9.30. Праграма "ОЗ".
10.00. Відэаканал "Плюс адзінаццаць".
11.15. "Як жыць будзем?".
12.00. Да Дня славянскага пісьменства і культуры.
12.30. "Бурда модэн" прапануе...
13.00. Весткі.
◆ 13.20. "Ледзяная ўнучка".
14.30. Шарман-шоу.
16.00. Пілігрым. Расійскае бюро падарожжаў.
16.55. "Рудольф Нурыеў як ён ёсць".
17.45. Парламенцкі веснік.
18.00. Кабарэ "Бязглуздзіца".
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. "Музыка ў стылі пэпсі".
21.30. Маскі-шоу.
21.55. Рэклама.
22.00. Весткі.
22.20. Рэклама.
◆ 22.25. "Другая спроба Віктара Крохіна".
0.05. "Экзотыка".

## 24, нядзеля

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Крадзеж". 2-я серыя.
10.00. Парады ўрача.
10.25. Праграма Узбекскага тэлебачання.
11.40. Вас выклікае Спартландыя.
13.00. НіКа.
13.45. "Герой леташняга лёду". І.Жалязоўскі.
14.25. Урокі касметолага Лары Лабуцінай.
15.20. Тэатралізаванае прадстаўленне прысвечанае 750-годдзю Неўскай бітвы.
16.35. Сёння ў дзіцячым музычным тэлетэатры...
• 18.10. "Медзведзяня Рымцімці".
18.30. Спявае Наталля Кастэнка.
19.00. Да Дня славянскага пісьменства і культуры. У.Гайдн. Урачыстая меса ў гонар Кірыла і Мяфодзія.
20.00. Панарама.
20.25. Паэтычная гасцёўня. У.Скарынкін.
20.40. Калыханка.
21.00. Запрашаем на вячоркі. Абрад "Радзіны". Фальклорны калектыў В.Спорава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці.
◆ 21.45. "Бераг правы, бераг левы" (Францыя).

### 1 канал. Астанкіна

6.00. Гадзіна сілы духу.
7.00. Рытмічная гімнастыка.
• 7.30. "Дзяўчынка і слон", "Чароўная палачка".
8.05. Тыраж "Спортлато".
8.15. Раным-рана.
8.55. Свята славянскай пісьменнасці і культуры. *Літургія. Урачыстае набажэнства. Трансляцыя з Успенскага сабора Крамля.*
9.40. Магчыма ўсё.
10.10. Новыя імёны.
10.45. "Дапамажы сабе сам".
• 11.25. "Дзядзечка Агу".
11.45. Марафон-15.
◆ 12.35. "Багатыя таксама плачуць" (Мексіка).
14.00. Навіны (з сурдаперакладам).
14.20. Дыялог у прамым эфіры.
15.00. Кімано-шоу.
◆ 15.40. "Хто там?"
15.55. Панарама.
16.35. "Хто з намі?". Перадача 13-я.
• 16.55. Уолт Дысней прадстаўляе...
17.45. Навіны.
18.00. Тэлелоцыя.
18.20. Клуб падарожнікаў.
◆ 19.20. "Чарноў".
21.00. Вынікі.
21.45. Свята славянскай пісьменнасці і культуры. "Любоўю і адзінствам уратуемся". Урачысты канцэрт. У перапынку (23.00.) – Навіны.

### Канал "Расія"

7.00. Весткі.
7.20. Прэзентацыя Міжнароднай дабрачыннай праграмы "Новыя імёны" (Ніжні Ноўгарад).
8.20. Дакументальная панарама.
9.20. "Хочаце, верце".
• 9.50. "Суперкніга". 13-я серыя.
10.15. Аты-баты...
10.45. Свята славянскага пісьменства і культуры.
11.50. "Дом Набокавых".
12.30. Мегаполіс.
13.00. Весткі.
13.20. Расійская энцыклапедыя.
13.50. Шарамецеўскія ансамблі. Канцэрт.
14.30. А.Касцінскі "Клетка".
16.00. У свеце жывёл.
17.00. Чэмпіянат свету сярод прафесіяналаў НБА.
18.00. Веснавы баль у Калоннай зале Дома саюзаў.
18.55. Рэклама.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
◆ 19.30. "Магі" (Францыя).
20.00. Тварам да Расіі.
20.15. Экспацэнтр прадстаўляе...
◆ 20.20. "Пачатак".
21.55. Рэклама.
22.00. Весткі.
22.20. Спартыўная карусель.
22.30. Рок-кафэ.
23.00. Лясы.

# Витебское училище культуры

объявляет прием учащихся на 1992—93 учебный год.

**На I курс дневного обучения на базе неполной средней школы по специальностям:**

- хореографическое искусство — *срок обучения 3 года 10 мес.;*
- живопись — *срок обучения 4 года 10 мес.;*
- художественное оформление — *срок обучения 3 года 10 мес.*

**По специальности "Культурно-просветительная работа и организация самодеятельного народного творчества".**

1. На I курс дневного обучения на базе неполной средней школы (срок обучения 3 года 10 мес.) по специализациям:

1.1. Руководство самодеятельным хореографическим коллективом;

1.2. Руководство самодеятельным оркестром народных инструментов.



2. На II курс дневного обучения на базе полной средней школы (срок обучения 2 года 10 мес.) по специализациям:

2.1. Руководство самодеятельным хоровым коллективом (народным);

2.2. Режиссура клубных мероприятий.

На специализации "Руководство самодеятельным хореографическим коллективом" и "Руководство оркестром народных инструментов" принимаются лица, имеющие среднее образование (на вакантные места).

3. На II курс заочного обучения на базе полной средней школы (срок обучения 3 года 4 месяца) по специализациям:

3.1. Руководство самодеятельным хоровым коллективом (народным);

3.2. Режиссура клубных мероприятий.

Все поступающие на дневную и заочную формы обучения сдают вступительные экзамены по специальностям, специализациям; белорусский язык (диктант), белорусский язык и белорусская литература (устно) — для изучавших в школе.



Лица, не изучавшие белорусский язык и литературу, сдают экзамен по русскому языку (диктант) и русскому языку и литературе (устно).

**Для поступления в училище необходимо представить следующие документы:**

1. Заявление о приеме.
2. Документ об образовании (в подлиннике).
3. Медицинскую справку по форме № 086/у.
4. 4 фотографии 3х4 см.
5. Копию (выписку) из трудовой книжки (для имеющих стаж работы).

По прибытии в училище поступающие предъявляют лично свидетельство о рождении и паспорт, военный билет или приписное свидетельство.

Прием заявлений на дневное отделение с 1 июня по 31 июля, на заочное с 3 мая по 10 августа 1992 г.

Вступительные экзамены на дневное отделение с 1 августа, на заочное с 10 августа 1992 г.

Явка на экзамены по вызову училища.

*Адрес училища культуры: 210002, г.Витебск, ул.Горького, 74.*
*Тел.: 33-37-32, 33-18-83, 33-35-31 (заочное отделение).*

# ПРЕДПРИНИМАТЕЛЬ!

В период становления предприятия, налоговой политики, изменений в организации бухучета и перед встречей с налоговой инспекцией —

ПОДСТРАХУЙСЯ!

**В этом тебе поможет ПКП "ЮНИКОМ", которое** проведет аудиторскую проверку, ревизию любых разделов финансово-хозяйственной деятельности малого предприятия, кооператива, организации любых форм собственности.

Также осуществит консультации по вопросам оптимизации коммерческой, договорной работы, организации бухучета, приводящей к уменьшению издержек производства и налогового бремени в рамках существующего законодательства.

*ТЕЛЕФОНЫ: 63-95-45, 63-87-30.*



Дзяжурны рэдактар А. КАМІНСКІ. Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.





Зак. № 20.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12